

Сяргей НІЧЫПАРУК→4

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Сустрэча з амбудсменам→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3117) Год LXI Беласток, 7 лютага 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Сумная 70-я гадавіна

29 студзеня ва Успенскай царкве ў Кляшчэлях, а пасля каля крыжоў у Залешанах сабраліся жыхары гэтай вёскі, наваколля і прыезджыя, каб памаліцца за душы трагічна загінуўшых 29 студзеня 1946 года аднавяскоўцаў. Адзначылі яны 70-ю гадавіну спалення вёскі і забойства часткі яе жыхароў жаўнерамі атрада Нацыянальнага вайсковага згуртавання, камандзірам якога быў Рамуальд Райс, псеўданім «Буры». Пасля малітваў каля крыжоў у Залешанах былі ўскладзены кветкі. 26 студзеня Рада горада Бельск-Падляшскі і 28 студзеня Рада Гайнаўскага павета прынялі заявы, у якіх ушанавалі памяць ахвяр атрада «Бурага», загінуўшых у перыяд 29 студзеня — 2 лютага 1946 года. 31 студзеня ў царкве Праваслаўнага манаскага жаночага дома велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах, якім кіруе ігумення Елізавета (Нічыпарук), іераманахі Мужчынскага манастыра велікамучаніка Дзмітрыя з Сакоў і вернікі маліліся за душы загінуўшых у пасляваенны час.

— Памятаем і молімся, каб тое, што тут здарылася, больш не паўтаралася, каб Бог праз добрых людзей адхіліў ад такіх трагедый. Да гэтага ўсяго давёў д'ябал. Калі будзем любіць Бога, будзем любіць іншых людзей, пазбегнем падобных трагедый, — сказаў настаяцель Успенскага праваслаўнага прыхода ў Кляшчэлях і дэкан Кляшчэлеўскай акругі мітрафорны протаіерэй Мікалай Келбашэўскі.

Кветкі каля крыжоў усклалі староста Гайнаўскага павета Мірaслаў Раманюк і бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі. Спадарожнічалі ім ігумення Елізавета з Залешан, протаіерэй Павел Нікіцюк з Кляшчэляў, радныя Кляшчэлеўскай гміны, Беластока, Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі, былы дэпутат Сейма Яўген Чыквін (раней устанавіў вялікі крыж у Залешанах у гонар там загінуўшых), старшыня Беларускага гістарычнага таварыства прафесар Алег Латышонак і старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік ды іншыя знатныя асобы.

— 70 гадоў назад загінулі тут нявінныя людзі. Мы ніколі не павінны забываць аб іх і павінны рабіць усё, каб да такой трагедыі не дайшло ў будучыні. Жыхары Залешан ніколі не атрымалі кампенсацыі за загінуўшых і за спаленую маёмасць. На Кляшчэлеўскай зямлі, на Залешанскай зямлі пражываюць перш за ўсё праваслаўныя, вялікая частка якіх гэта людзі беларускай нацыянальнасці. Да нас, нацыянальнай меншасці, павінны ставіцца з пашанай, каб мы мелі свае правы, — сказаў бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі.

— Мы, радныя Гайнаўскага павета, прынялі заяву, якой ушанавалі памяць ахвяр атрада «Бурага». Мой дзядуля з Махнатага быў сярод вазакоў, якія з Лазіцы везлі атрад «Бурага». Гаварыў ён і аб гэтым успамінала мая мама, што дзядуля ехаў у канцы групы вазакоў і вёз трох жаўнераў «Бурага». Калі ўсе затрымаліся, двух з іх пайшло наперад, а трэці, адыходзячы, даў зразумець, каб дзядуля ўцякаў. Дзядуля ад'ехаў і не вяртаўся дамоў двое сутак. Пасля дажыў да 86 гадоў і добра ўспамінаў таго жаўнера, які выратаваў яму жыццё, — сказаў гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк.



■ Каля крыжоў у Залешанах жыхары вёскі і наваколля маліліся за душы трагічна загінуўшых 29 студзеня 1946 года

— Для мяне прысутнасць тут — асаблівая ўнутраная патрэба. Тут беларусаў спасцігла вялікая трагедыя і мы, беларусы, павінны памятаць аб ёй і ўшаноўваць людзей тут забітых. Здарэнні са студзеня і лютага 1946 года мелі ўздзеянне на многіх беларусаў, якія ў той пасляваенны час сталі ў польскай народнай уладзе бачыць гарантыю аховы, — сказаў прафесар Алег Латышонак.

На тварах залешанцаў, сабраных каля крыжоў, было відаць смутак і боль, які не сцерлі нават дзясяткі гадоў, што мінулі ад трагедыі. Пасля малітваў найстарэйшыя жыхары Залешан успаміналі гора, якое іх спасцігла 70 гадоў назад.

— Мне было 7 гадоў, але я запамятала тое, што дзеялася, калі ў Залешаны прыйшоў атрад «Бурага». Я апынулася з іншымі ў хаце, якую падпалілі. Калі дом стаў гарэць, людзі выбілі дзверы і сталі ўцякаць. Жаўнер, які вартаваў гэтую хату, стаў страляць уверх і таму ўсе мы выраталіся. А ўцякалі мы праз агароды і поле. Наша цёця была краўчыхай і можа таму, што яна папраўляла шынялі для «Бурага» і яго жаўнераў, то не спалілі яе дома. Толькі адна гэтая хата ў Залешанах не згарэла. Мы з сямейнікамі сталі жыць у хаце добрых людзей у Саках, у католікаў. Пазней мы падчас святаў запрашалі іх да сябе, а яны нас запрашалі на каталіцкія святы, — расказала спадарыня Клаўдзія з Залешан. — Невядома чаму жаўнеры атрада «Бурага» спалілі нашую вёску і забілі нашых людзей.

Праваслаўны жаночы манаскі дом велікамучаніцы Кацярыны ў Залешанах быў адкрыты ў 2007 годзе. Пастаянна жыве ў ім ігумення Елізавета (Нічыпарук), сямейнікі якой саставілі значную частку загінуўшых у Залешанах. Некаторыя праваслаўныя людзі лічаць загінуўшых мучанікамі і гавораць, што менавіта дзякуючы іх малітвам і хадайніцтву ў Госпада быў заснаваны і дзейнічае мясцовы манаскі дом. Матушка Елізавета малілася 29 і 31 студзеня за ўпакаенне душ сваіх сямейнікаў і астатніх загінуўшых у Залешанах.

Інстытут нацыянальнай памяці падчас расследавання высветліў, што атрад «Бурага» 27 студзеня затрымаўся ў вёсцы Лазіцы, непадалёк ад Арэшкава. Тады ў гэтую вёску з'ехаліся на фурманках жыхары больш дзесяці навакольных сёлаў, каб перавезці драўніну ў Орлю на патрэбы тамашняй гміннай установы. Частка гаспадароў прыбыла па драўніну на ўласныя патрэбы, а частка мужчын прыехала ў лес на заробкі. Жаўнеры атрада «Бурага», як іх сталі называць у Інстытуце нацыянальнай памяці, выбралі з ліку ўсіх вазакоў тых, у якіх былі лепшыя коні і вазы і сталі на іх перамяшчацца. Апошнім прыказалі чакаць у Лазіцах даўжэйшы час пасля ад'езду атрада. Раніцай 29 студзеня атрад «Бурага» з вазакамі прыбыў у Залешаны. Частка яго жаўнераў была размеркавана па хатах жыхароў вёскі. Пасля абеду загадалі яны жыхарам Залешан сабрацца на сход у хаце Дзмітрыя Сахарчука. Інстытут нацыянальнай памяці паведамляе, што дзверы ў гэтым доме былі заперты і была падпалена саламяная страха хаты, у якой знаходзіліся жыхары вёскі. Праз выбаленне ад панадворка дзверы людзі сталі ўцякаць з падпаленай хаты. Жаўнер, які пільнаваў дом з яго процілеглага ад вуліцы боку не страляў ва ўцякаючых, толькі па-над іх галовамі, дзякуючы чаму ўсім удалося ўцячы з падпаленай хаты. Паводле ІНП і ўспамінаў жыхароў Залешан, у гэтым часе іншыя члены атрада сталі падпальваць астатнія хаты ў Залешанах і страляць да ўцякаючых з палаючых дамоў. У агульным ліку ў Залешанах загінула 16 асоб, з якіх частка згарэла. Рамуальд Райс, псеўданім «Буры», пасля вайны быў прысуджаны да смерці і прысуд быў выкананы. У 1995 годзе суд Варшаўскай вайсковай акругі рэабілітаваў «Бурага». Пасля расследавання праведзенага Інстытутам нацыянальнай памяці атрад Нацыянальнага вайсковага згуртавання, якога камандзірам быў Рамуальд Райс, псеўданім «Буры» быў прызнаны віноўным у пацыфікацыі вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Шпакі, Зані і Канцавізна ў 1946 годзе, а таксама ў смерці каля 50 жыхароў гэтых вёсак і 30 вазакоў. У нядзелю 31 студзеня на вайсковых могілках у Бельску-Падляшскім памяць вазакоў ушанавалі гарадскія ўлады і сем'і загінуўшых.

— Цяжкое пытанне: за што ўсё гэта зрабілі нам у Залешанах? Аднак без прабачэння правінаў нельга будаваць лепшую будучыню, — лічыць Сяргей Нічыпарук, герой радыёрэпартажу Яраслава Іванюка і апошняй дакументальнай кінастужкі Юрыя Каліны «Сярожа», бацька ігуменні Елізаветы. — Сапраўдным героем у атрадзе «Бурага» быў чалавек, якога паставілі пільнаваць падпаленую хату, у якую сагналі людзей з вёскі. Ён, пускаючы людзей уцякаць і страляючы ўверх, рызыкаваў сваім жыццём.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**Заява № 4/16 Рады горада Бельск-Падляшскі ад 26 студзеня 2016 г. у справе ўшанавання 70-й гадавіны пацыфікацыі вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Зані і Канцавізна і забойства фурманоў у наваколлі вёскі Пухалы-Старыя.**

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны і роспуску Арміі Краёвай на тэрыторыі нашай краіны далей дзейнічалі арганізацыі ваеннага характару, якія супрацiўляліся новай, камуністычнай уладзе. Іх барацьба — прыклад незвычайнай адвагі і адданасці польскіх салдат, якія нязломна змагаліся з таталітарнымі ідэалогіямі — фашызмам і камунізмам, неаднакратна ад пачатку вайны. На жаль, здараліся таксама ўчынкі вартыя асуджэння, якія кладуцца ценем на дзейнасць антыкамуністычнага падполля і скажаюць яго ідэі.

Семдзесят гадоў таму на тэрыторыі Бельскага і Гайнаўскага паветаў, на пераломе студзеня і лютага 1946 года атрад канспіратыўнай арганізацыі „Narodowe Zjednoczenie Wojskowe — Pogotowie Akcji Specjalnej", пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса „Бурага" здзейсніў пацыфікацыю вёсак Залешаны, Вулька-Выганоўская, Зані і Канцавізна і забойства фурманоў у наваколлі вёскі Пухалы-Старыя. У выніку гэтых дзеянняў загінула 79 чалавек праваслаўнага веравызнання беларускай нацыянальнасці, у тым ліку жанчыны і дзеці.

У 70-ю гадавіну тых трагічных падзей Рада горада Бельск-Падляшскі з задуменнасцю схіляецца над лёсам ахвяр, ушаноўваючы іх памяць і ўскладаючы надзею, што падобныя трагедыі ніколі ўжо больш не паўторацца. Рэлігійная, культурная і этнічная разнароднасць Бельска-Падляшскана, Бельскай зямлі і ўсяго рэгіёна з'яўляецца нашым супольным багаццем і спадчынай, а ўзаемная пашана — супольнай вартасцю. Будучы вернымі гэтай пазіцыі, з усёй рашучасцю асуджаем усялякія дзеянні, тыя з мінуўшчыны, як і цяперашнія, якія пагражаюць гарманічнаму функцыянаванню нашай грамадскасці.

Бельск-Падляшскі — горад асаблівай талерантнасці, з'яўляецца знакамітым прыкладам згоднага сужыцця яго жыхароў. Мы ганарымся гэтым.

Старшыня Рады — Ігар ЛУКАШУК





# Зваротная сувязь

Усё часцей у сацыяльных сетках пачало гучаць адно вельмі цікавае пытанне. Цікавае яно ў першую чаргу сваёй эмацыйнасцю і разгубленасцю, якія нейкім цудадзейным чынам спалучыліся ў адно цэлае. Задаюць яго розныя людзі, з розных краін і на розныя тэмы. Але яно мае і агульны элемент, які можна было б назваць подыхам нашага часу. Яго, гэтае пытанне, у агульным і скарочаным выглядзе можна было б перадаць такой фразай: „А чаму так ёсць?". Прычым задаюць яго паўсюдна, так што можна сцвярджаць, што яно набыло сусветны характар. Такое ўражанне, што людзі па ўсёй планеце знаходзяцца ў стане нейкай разгубленасці і аніяк не могуць зразумець сэнсу і логікі таго, што адбываецца з імі і вакол іх.

Вось толькі ёсць вялікая розніца, як гэтае пытанне задаюць у Еўропе, і як на пасляsavecкай прасторы, у тым ліку і ў нас, у Беларусі. Калі ў Еўропе людзі пытаюцца ў першую чаргу ў саміх сябе, чаму ў іх краіне ўзнікаюць нейкія праблемы, і, выходзячы з гэтага пачынаюць шукаць варыянты выхаду з непажаданай сітуацыі, то нашы людзі заўсёды пытаюць чаму ў нас не так як недзе там за мяжой. Ну і адпаведна гэтаму светапогляду найпрасцейшым варыянтам выбытацца са свайго асабістага крызісу бачацца ўцёкі туды, дзе гэтага крызісу няма. Думка, што трэба тут, у сябе на радзіме наладзіць жыццё, здаецца маладасягальнай, ці як мінімум занадта доўгай і вельмі энергастратнай.

— А чаму нас, людзей, якія шмат працуюць на сваёй зямлі, нашая ж краіна падтрымлівае значна менш, чым эмігрантаў з Афрыкі і Азіі, частка якіх увогуле працаваць зусім не думае? — пытаюцца французскія фермеры. Пасля сядаюць на трактары і едуць пікетаваць дарогу. І сочаць ці пачулі іх палітыкі, каб вырашыць за каго галасаваць наступны раз. Бо гэта як мінімум праверка ці працуе ў іх зваротная сувязь з іх уладай.

І зваротная сувязь пачынае працаваць. І вось ужо еўрапейскія палітыкі разглядаюць іншыя варыянты прыёму ўцекачоў, і іншыя варыянты падтрымкі сваіх фермераў.

І выйсце мусяць знайсці, бо ў адваротным выпадку пасля наступных выбараў палітыкамі яны больш не будуць.

— А чаму ў Швейцарыі людзям па беспрацоўю плацяць такія вялікія грошы, а ў нас прыдумалі падатак на дармаедства? — пытаюцца беларусы. І ўжо ў самім пытанні закладзены працяг, што пры мажлівасці лепш за ўсё ўцячы ў тую Швейцарыю, раз там не толькі не забіраюць грошы, але наадварот, іх даюць.

Нешта падобнае можна сказаць і пра ўладу. Паколькі людзі, якія дасягнулі поспеху ў палітыцы, выходзяць кожны са свайго народа, то, адпаведна, іх мысленне ад народнага мала чым адрозніваецца. І вось еўрапейскія палітыкі пачынаюць ламаць галаву над тым, якія трэба правесці эканамічныя рэформы, каб былі грошы на падтрымку сваіх фермераў. Ну і трэба ж, каб нешта і эмігрантам засталося, каб тыя, згаладаўшыся, не кінуліся рабаваць фермераў, бо астатнім гэта можа не спадабацца, а яны ж маюць права голасу. Так працуе ўсё тая ж славутая зваротная сувязь.

У нашага чыноўніка ўсё прасцей. У яго зваротная сувязь у другі бок ідзе — да вышэйшага начальства. Вось ён і прыдумвае падатак на дармаедства, каб начальству дагадзіць. Бо грошы трэба збіраць менавіта для іх. І цяпер прадпрымальнік, калі выйдзе на працу, то мусіць заплаціць падатак з заробку, ну а калі пікетаваць будзе, то таксама падатак заплаціць, толькі ўжо таму, што не рабіў. І так заплаціць, і так заплаціць. Эканамічны цуд.

Зразумела, што так і далей будзе працягвацца, пакуль народ не дамажацца, як у Еўропе, каб зваротная сувязь працавала ў правільны бок. Ну а зараз, пакуль еўрапейцы задаюцца пытаннем, што ім трэба мяняць у сябе, у Еўрасаюзе, найчасцей пачуе пытанне ад беларусаў гучыць прыкладна так:

— А ці чулі вы, што Польшча вырашыла зараз прымаць больш эмігрантаў з Беларусі? Не ведаеце, якія паперы трэба зрабіць, каб хутчэй туды патрапіць, пакуль прымаюць?

І пакуль народ з надзеяй глядзіць на Захад, начальства паглядае на Усход. Кожны глядзіць туды, дзе канкрэтна яму карысней. Такая вось у нас зваротная сувязь.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Вулічныя гульні

Яшчэ да нядаўняга часу снабісцкая спрэчка паміж прыхільнікамі канцэпцыі нацыянальнай і адкрытай дзяржавы праходзіла на салонах палітычных і інтэлектуальных элітаў. Павінны імі цікавіцца меншасці — нацыянальныя, культурныя, рэлігійныя. А ці былі? Прынамсі, прадстаўляючыя іх эліты. І гэта неабавязкова толькі ў Польшчы. Ва ўсёй Еўропе. Таму што на Старым Кантыненце няма ні адной аднанацыянальнай, аднакультурнай, аднарэлігійнай краіны... Гэта не значыць, што іх палітычны і культурны тоеснасцевы статус не вызначаецца дамінуючымі нацыянальнымі большасцямі ў іх краінах. Спрэчка, пра якую я казаў, арганічна ўпісана ў гістарыясофію еўрапейскіх краін. Мінулыя і незлічоныя войны, асабліва I і II сусветная, паказалі, што ген нацыяналізму, які з'яўляецца часткай культурнага і сацыяльнага коду кожнай нацыі, незвычайна лёгка актываваць. Справа ў тым, каб абмежаваць яго разбуральнае ўздзеянне — не толькі ў адносінах да «меншасці» ўкаранелай у большасці, што «большасці», якая ўзурпуючы правы вырашаць аб «цэласці», маргіналізуе правы меншасцей. Гэтыя супярэчнасці спрабуе змякчыць панясце адкрытай дзяржавы. Яно заснаванае на «каштоўнасцях павагі чалавечай годнасці, свабоды, дэмакратыі, роўнасці, вяршэнства закона і павагі да правоў чалавека, уключаючы правы асоб, якія належаць да меншасцей». Калі хтосьці не заўважыў, нагадаю, што вышэйпрыведзеная цытата ўзята жыўцом з 2 артыкула Трактата аб Еўрапейскім Саюзе. З пункту гледжання беларусаў, украінцаў і літоўцаў у Польшчы, артыкул 2, калі яго паважае дзяржава (а сёння гэта вельмі сумніўнае), абараняе іх правы і грамадзянскія, сацыяльныя і культурныя патрэбы. Зразумела, што павінны быць яны цалкам прасаюзнымі, праеўрапейскімі, прадэмакратычнымі. Але ці ёсць? Я не ведаю, ці было гэта прадметам праведзеных сацыялагічных даследаванняў. Мяркуючы па выніках апошніх выбараў, якія прывялі да ўлады ў Польшчы еўраскептыкаў ад ПіС, здаецца, што жыхары Падляшша — прынамсі беларусы, вельмі прадстаўнічыя на Падляшшы — выказаліся на карысць варыянта адкрытага грамадства. Гэта ў Арлянскай, Гайнаўскай і Чыжоўскай гмінах партыя Яраслава Качынскага атрымала найменшую падтрымку ў краіне — адпаведна 8,37%, 7,96% і рэкордна нізкую ў Чыжоўскай — ледзь 5,13%. Так і можна сказаць, што маса вынарбшчыкаў ясна выказалася ў канцэпцый-най спрэчцы за Дзяржаву. Яна выбрала адкрытае грамадства. Я не чуў, аднак, ці не меў магчымасці пачуць, як у гэтым пытанні выказваюцца беларускія эліты. Справа не цярпіць адкладу. Тым больш, што гэтая спрэчка літаральна з салонаў выкацілася на вуліцы, становіцца спрэчкай эгалітарнай. Барані Бог, каб агульнай! Зраўняліся толькі галасы. Столькі ж важыць роў падлетка-трагладыта, таптаўшага падкаванымі чаравічышчамі сцяг Еўрапейскага Саюза, як лагічная развага разумніка-прафесара, які акцэнтуе слабасці еўрапейскай дэмакратыі з-за пісьмовага стала, абуты ў цёплыя тапкі.

На шчасце, у апазіцыі да вулічнага ўзмацнення актыўнасці Нацыянальнага руху, ксенафобскай Асацыяцыі сем'-яў «Польская памяць і ідэнтычнасць», ОНР, падкормліваючагася ядам свайго санацыйнага пратапласта, нарэшце ўчадзелых ад нацыяналістычнай рыторыкі хуліганаў-балельшчыкаў, падняўся знізу і пакуль адзіны грамадскі рух пад назвай КАД — Камітэт абароны дэмакратыі. Ён выступае супраць антыеўрасіюнізму і антыдэмакратычнаму стаўленню папуліцкага Права і справядлівасці. Папуліцкага, таму што спасылаецца яно як на супольнасцевыя каштоўнасці, так і бяздумныя інстынкты «большасці». Толькі што вулічныя гульні, што праводзяцца паміж КАДам і яго нацыяналізаваным антаганістам, наогул кажучы — нацыяналістычным правым крылом, з'яўляюцца вельмі небяспечным працягам салоннай спрэчкі за Польскую Дзяржаву. І я мог бы дадаць, спрэчкі дробнай настолькі, як сказаў Мацей Барткоўскі з вашынгтонскага Міжнароднага інстытута канфлікту без гвалту, у інтэрв'ю «Палітыцы»: «Ніхто адмыслова не спрабаваў стварыць у Польшчы ўявы сучаснага канстытуцыйнага патрыятызму амерыканскага ці нямецкага тыпу, заснаванага на грамадзянскім нонканфармізме, пачуцці грамадзянскай адказнасці, усведамлення грамадзянскіх абавязкаў у адносінах да парадку, на якім заснаваны дзяржаўны лад». Няхай гэтыя словы будуць разыначкай гэтага фельетона. Ніхто не спрабаваў! Ці азначае гэта, што гэтае занядбанне мае выправіць... вуліца?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Пра мульты-культы ў камісіі

Падчас аднаго з апошніх пасяджэнняў парламенцкай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей ставілася пытанне, ці патрэбны ёй пастаянны дарадчык. Можа яна мець такога дарадчыка, але не мусіць і, можа таксама (маючы пастаяннага дарадчыка) карыстацца прафесійнай падтрымкай спецыялізаваных кансультантаў па канкрэтных пытаннях па справах ёю вырашаных. Чатыры тэрміны паўнамоцтваў быў ім доктар Лех Ніякоўскі з Інстытута сацыялогіі Факультэта філасофіі і сацыялогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Як згадваў у ходзе гэтай сустрэчы сам Лех Ніякоўскі, кансультатыўная работа азначае не толькі бягучую прафесійную падтрымку, але і, напрыклад, падрыхтоўку праектаў прапаноў і, перш за ўсё, апрацоўку спецыялізаваных экспертыз.

З трохі дзіўным запытам на сесіі выступіў віцэ-старшыня камісіі, дэпутат Шыман Гіжынскі (ПіС). Ён папрасіў дарадчыка прадставіць змест кніг «У пошуках мультыкультурнага ладу. Нацыянальныя меншасці ў Польшчы і выклікі еўрапейскай інтэграцыі», якой Лех Ніякоўскі быў рэдактарам і «Даведніка па барацьбе з дыскрымінацыяй для супрацоўнікаў паліцыі» яго сааўтарства, апублікаваных Асацыяцыяй садзейнічання развіццю грамадзянскай супольнасці «Пра гуманум». Дарадчык Ніякоўскі адказаў між іншым: «Першая з гэтых пазіцый была створана ў вельмі асаблівым кантэксце складаных працэсаў еўрапейскай інтэграцыі. Гэтая кніга, калектыўная праца, з розных перспектыў глядзіць на розныя нацыянальныя і этнічныя грамадскасці ў Польшчы. Гэта, хутчэй за ўсё, пагляд на сітуацыю меншасцей ва ўмовах хутка змяняючайся Польшчы і ўводу розных заходніх рашэнняў, а не толькі канкрэтных юрыдычных актаў, але і некаторых добрых практык. Так што гэта навуковае даследаванне, якое паказвае супольнасці ў час вельмі дынамічных змен пасля 1989 года, што таксама азначала мадэрнізацыю форм прадстаўнічых арганізацый нацыянальных і этнічных меншасцей. Другая кніга ўяўляе сабой падручнік, распрацаваны ў рамках вялікага праекта абучэння функцыянераў паліцыі па жаданні паасобных камендатур, што прынесла вельмі добрыя вынікі».

Тлумачэнне дарадчыка не зусім задаволіла дэпутата Гіжынскага. Ён пытаўся: «Як вы, спадар прафесар, разумееце, проста казаўшы, антыдыскрымінацыйнае стаўленне дзяржурнага паліцэйскага? Што на самой справе значыць гэта ў двух словах? Я пытаюся вельмі проста, што, напрыклад, мае агульнае — ці ўвогуле мае — загаловак «У пошуках полікультурнага ладу» з ужо скампраметаванай ідэалогіяй мульты-культы?».

Лех Ніякоўскі дадаў, між іншым: «Я не думаю, што мадэль мультыкультуралізму, якая ў асноўным караніцца ў амерыканскім кантэксце, праверылася. Хутчэй за ўсё, гэта было сведчанне таго, што розныя грамадскасці, якія раней альбо не былі вядомыя на грамадскім форуме, не мелі голасу, або ўспрымаліся трохі ў этнаграфічнай, народнай нішы, хацелі публічна паказацца, хацелі бачыцца як гаспадары свайго рэгіёна. У гэтым кантэксце панясце мультыкультуралізму з'явілася. Але спасылаючыся на мадэль, пра якую спадар старшыня ўспомніў — на мой погляд — мультыкультуралізм, вядома, не апраўдаўся. Ён не спрацаваў таксама ў Амерыцы. Дарэчы, быў ён больш мадэллю, калі мы гаворым пра дакладную амерыканскую мадэль, якая была больш праектам, чым апісаннем статус-кво. Кніга — гэта даследаванні, якія паказваюць на тое, як выглядалі тыя супольнасці, а не распрацоўка нейкай мадэлі. Што тычыцца падручніка, тут не было стандартаў, якія мы хацелі б прадставіць у працы паліцыі. Хутчэй за ўсё гэта быў адказ на патрабаванне сілавых службаў, у якіх ужо былі такія абавязацельствы, вынікаючы як з агульных правоў, так і ўнутраных правілаў паліцыі, дзе патрабавалася якраз павага да грамадзян, незалежна ад іх этнічнай прыналежнасці, расы, рэлігіі. Вельмі часта паліцыянтам патрэбна была такая інфармацыя, таму што нават у грамадскай думцы сустракаліся яны з некаторымі абвінавачваннямі, што іх паводзіны былі неадчувальнымі да розных адрозненняў грамадзян, таксама і іншаземцаў, імігрантаў.

Дэпутат Гіжынскі ў канчатковым рахунку аказаўся быць, як сказаў, задаволеным і супакоіўся наконт намераў сааўтара кніг і дарадчыка, які ў канчатковым выніку будзе працягваць выконваць сваю функцыю (што дэпутаты прынялі на падставе аднадушнай ухвалы), як можна спадзявацца, скептычна кансультуючы ў дачыненні да мульты-культы ў Польшчы.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Рэдакцыя «НІВЫ» цягам 2016 года будзе прыгадваць нашым чытачам рэпарцёрскія матэрыялы нашых журналістаў, якія пісалі пра трагічныя пасляваенныя падзеі з жыцця беларусаў Падляшша. Большасць з іх публікавалася ў кнізе «Час трывогі і надзеі. Штодзённае жыццё беларусаў Беласточчыны ў пасляваенны перыяд (1944-1956)», выдадзенай нашай рэдакцыяй у 2007 годзе.**



Мы помнім (1946–2016)

# ЗАЛЕШАНЫ. ТРАВА ЗАБЫЦЦЯ

*Залешаны, 29 студзеня 1946 г.*

У Залешаны я выбраўся 2 жніўня, у дзень святога Ілы-Прарока. У час жніва і сенакосу будзённым днём мала каго ў вёсцы застанеш. А Ілыю на Беласточчыне беларусы святкуюць паўсюдна.

Дарожныя ўказальнікі на Залешаны на шашы Бельск — Кляшчэлі — два: налева і направа. Наш самаход паварочвае налева. Выбіраем добра: трапляем, так бы мовіць, у асноўныя Залешаны. Па другі бок шашы два прысёлкі: Залешаны-Сады і Залешаны-Равы.

— Я вам нічога не скажу, бо амаль нічога не памятаю, — кажа мне залешанскі солтыс Міхал Леанчук. — Мне было тады — колькі? — усяго чатыры гады.

Тым, хто выжыў, зараз ужо мусіць быць пад семдзесят.

Падыходзіць да нас яшчэ адзін гаспадар, Пётр Лукашук, зацікаўлены, мабыць, не надта ўжо частым госцем у сваёй вёсцы. Выцягваю з кішэні пачак папяросаў, а з сумкі свежыя „Нівы". У Залешанах я ўсяго другі раз у жыцці, з нікім тут не знаёмы. Найважнейшае — каб паверылі, што свой. Мова, яна тут самая істотная.

Няшмат з кім тут паразмаўляеш. Старыя, што засталіся, альбо ўжо з ложка не ўстаюць, даходзяць, альбо розум у іх папсаваны. Трэба гаварыць з тымі, што на той час былі ў падлетках, мелі па чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў.

— Завяду вас да Ніны Лемеш, — кажа солтыс. — Яна можа добра расказаць. І чалавек яе таксама, але ён у Гайнаўку збіраўся, і хіба ўжо паехаў.

Цётка Ніна (з дому — Сахарчук) пражыла ў Залешанах увесь свой век: выйшла замуж у сваёй вёсцы. Яна, як аказалася, адзін з тых пяці-шасці чалавек, што памятаюць і могуць расказаць. Яе не спужаў мой дыктафон, які я паставіў на столік-шафку на кухні, не даваяючы занатоўкам уручную. Тон голасу, яго на паперы не запішаш. Але нейк кампенсаваць можна. Так званымі літаратурнымі сродкамі, што-колечы гэта ні азначала б.

— Была зіма, аж тут ламочуць у дзверы, — пачала цётка Ніна. — Мы ўжо былі ляглі. Глянулі ў акно — якоесь войска. Ну, тады банды штораз то па вёсках хадзілі. Тата нашы шмыг пад печ, бо былі партыйныя. А яны, як толькі наехалі, цягаюць у кожную хату салому. То ж кожны мае пасцель, мае ўсюткa, а яны цягаюць салому... Пананосілі тае саломы... Ну і паказваюць для нас — войско польске... Войско то войско, што тут скажаш?..

— Быў такі мой калега, Пецю, солтысаў сын... Солтыс таксама схаваўся, ён быў солтысам за саветаў. А яны з самага рання ўзялі тое дзіця і водзяць яго з сабою па цэлай вёсцы. А кругом вёскі паставілі страж — кругом, кругом... І хто ў вёску ўваходзіў, то ўжо заставаўся, ужо не выходзіў...

— Якась так сталася, што яны адвярнуліся, і нашы тата кажуць маме: дай мне што адзецца. Бо яны ў кальсонах былі, а то ж зіма. Адзеліся і да хлява, шмыгнулі на вышкі, там схаваліся...

— А да нас якраз прыйшоў „Буры" (Рамуальд Райс, камандзір атрада — Я. М.). У нас была вялікая хата. Ён нас выгнаў (яшчэ дзве сястры малыя былі), ён нас на кухню павыпіхаў, а сам такі стол вялікі расцягнуў, круглы, на ім такую мапу страшную разлажыў, мы ўсё бачылі, бо праз шчыліну заглядалі...

**— То вы „Бурага" бачылі ў вочы?**

— А пэўна ж. Я і сёння яго б пазнала... Во, у Беластоку, кажуць, табліцу яму павесілі, што нібы яго мардавалі, а не думалі, колькі ён памардаваў... Ну і кажуць, каб ім *снядане готоваць*... Пайшлі па вёсцы, нацягнулі, там шынку, там тое, там сёе. Мама ім сталі есці варыць...

— А ў вёсцы ў нас быў такі Федзя, Сахарчук, трохі як бы не ў сваім розуме хлопец. А яны пайшлі туды авёс браць. А той бедны Федзя кажа, што аўса ў іх мала, вельмі мала... Узялі яго і адразу застрэлілі...

— Ну і тое... Нашы тата на вышках сядзяць... А з Сухавольцаў прыйшоў у вёску кравец, Зялінка, здаецца, а як яго імя — забыла...

— Ага, так: дзень ужо праходзіў, а яны пайшлі па вёсцы і выганяюць усіх з хатаў, заганяюць усіх у адну хату...

**— Ці памятаеце, чыя то была хата?**

— Памятаю, Сахарчука Дзьмітра... Дымітра і Уладзіміра, хата была вялікая, на дзве палавіны. Пазганялі цэлую вёску ў тую хату... І таксама тых, што ў Залешаны прыйшлі, і іх ужо не выпускалі. З Сухавольцаў такая дзеўчына ішла замуж, прыйшла працаць на вяселле, Ніна Нігярэвіч называлася, яе таксама з усімі запхнулі. І з Чахоў быў хлопец, з Чахоў-Балотных... Але многа людзей па хатах пазаставалася, хто дзе схаваўся, а хто, як бедна жыў, то і адзецца не меў і застаўся. Нічыпарук Марыя засталася дома, а з ёю трое дзяцей малых... Леанчук Рыгор застаўся ў хаце, і двое дзяцей... І Нічыпарук Наталля і двое дзяцей, хлопчык і дзеўчынка... І бацька іхні, Ваня Нічыпарук. Хлопец і бацька дайшлі адразу, але маці з дачкою страх як мэнчыліся перад смерцю, абгарэлі цэлыя...

— Мы найменшую нашу сястру пакінулі дома, яна ў нас якаясь хвараватая тады была. Мама сказалі, а куды ты, дзіця, пойдзеш, сядзі тут каля печы... А яно, беднае, сядзела і паварушылася, а на чыгуне стаяла патэльня, зачапіла яе і звaліла. І гук стаў вялікі. А той бандзёр, той „Буры", выбег з пісталетам, думаў, што там невядома хто. Пабачыў, што дзеўчынка, і схапіў яе за кудлы і выкінуў на двор. І сказаў, каб другі бандзёр завёў нашу Марысю туды, дзе ўсе... А яна то і амаль голенькая была... Наша хата была напроці тае, дзе ўсе сядзелі... Мама выбеглі, узялі яе на рукі, прытулілі да сябе...

— Палілі нас у панядзелак, ужо пад вечар...

— Як зганялі нас у тую хату, то сказалі: вёска ваша пойдзе з агнём, а вы Богу на ахвяру... Ну так, такі нам вырак далі...

— „Буры" ўжо з бандаю выехаў, але страж пакінуў. І яны пайшлі па вёсцы і стралялі па стрэхах з аўтаматаў, запальнымі кулямі... Людзей у Сахарчукоў поўная хата, і ўсе бачаць, як вёска гарыць. А тыя людзі, што па хатах засталіся, сталі выбягаць. А іх сякуць з аўтаматаў. Леанчук Рыгор і двое дзяцей, Нічыпарук Марыя і трое дзяцей, хлопцы былі, і Нічыпарукі Наталля і Іван, і іхнія хлопец і дзеўчынка, я ўжо казала, бацька з сынам мусілі выбегчы, бо іх на дварэ застрэлілі, а маці з дачкою паранілі ў хаце, і яны там згарэлі, доўга і страшна енчылі... І наша хата, што напроці, ужо гарыць... А потым яны ўжо сякуць з аўтаматаў па той хаце, дзе мы ўсе, б'юць уверх, пад страху... І мы ўжо гарым. І тут віск, піск падняўся... Адны былі дзверы ад вуліцы, а другія з тылу, ад падворка... З вуліцы страляюць, а тыя дзверы ад падворка гвоздзямі забілі... Але ж там стаяў якісь, разумееце, іншы за ўсіх, якісь людскі чалавек. Ён тыя дзверы адбіў і кажа: уцекайце, уцекайце...

— Каго ж выслаць? Людзі стаяць і баяцца... Быў такі хлапчына, Лукашук Лёня, быў з бацькам, мацеры ў яго не было. І людзі кажуць: Лёня, ты бяжы, бяжы... І ўсё глядзяць. І як тое дзіця пабегла, і ніхто да яго не страляў, то грымнулі ўсе. А хата ўжо трашчала і падала на нас. Макар Несцярук абгарэў страшна: рукі ў яго засталіся калекія аж да смерці. І яго швагерка, Галена... І тут хлявы гараць, і статак, і стадола, прабеглі мы каля іх і кінуліся да Тапароў, найбліжэйшай вёскі. А і там стрэлы, яны паехалі туды вёску рабаваць...

— А залешанскіх маладых мужчын, і чалавека майго будучага, хацелі ўзяць фурманамі. Параздзявалі іх дагала, засталіся яны ў адных кальсонах. Але потым раздумалі — узялі толькі аднаго, ён ужо так і не вярнуўся, а рэшту разам да нас у тую хату... І тыя ж хлопцы басячком, зіма была, беглі да Тапароў... Потым ім ногі гнілі, панапухалі...

— Тата нашы ўцяклі, як хлеў загарэўся... Але незадоўга да таго бачылі, як бандыты прывялі да нас пад дашок солтысавага сына, Пецю Дзямянюка, і таго краўца, Зялінку, ці не Аляксандр яму было, і там пасталялі... Пецю было чатырнаццаць тады, як і мне...

— Людзі як павaрочаліся потым, то адно попел пабачылі. Усё згарэла датла. Не, чакайце, дзве хаты засталіся... А ўсё іншае — да попелу. І каровы, і свінкі, усё... А шчэ рок быў такі, што каровы, як на смех, усе цельныя, і ўсе амаль — з двума цялятамі. Ляжалі абгарэлыя, з жыватамі палопанымі, тыя цялятки ім вывальваліся...

**— А дзе потым людзі жылі?**

— Па вёсках, па суседніх вёсках... Да вясны. А ўжо потым сталі зямлянкі капаць... І не адны залешанцы так жылі... То ж кругом тут папалілі, і Зані, і Шпакі, і Вульку... ... Як падумаеш... Кажуць, пекла страшнае, страшны суд... Ужо хіба нам яго не будзе, мы ўжо свой перайшлі...

Доўгі час цётка Ніна перабірала ў памяці, хто яшчэ мог бы мне расказаць. Можа Васёнка (Васіліса) Младзяноўская? Розум у яе добры, кажа цётка Ніна. Але дома яе не засталі: пайшла на багаслужбу ў царкву, у Сакі.

Я зноў на вуліцы, з солтысам і Пятром Лукашуком. І яшчэ падыходзіць Сцяпан Астапкевіч. Яму тады было пятнаццаць. Але ў дыктафон дзядзька Сцяпан гаварыць не хоча. Калі так, без дыктафона, то можа.

Яшчэ раз. Аповесць Сцяпана Астапкевіча разыходзіцца з расказаным цёткай Нінай у дробязях.

Вёску запалілі не з аўтаматаў — мелі спецыяльна нарыхтаваныя паходні, імі падпальвалі хата за хатаю. Палілі ў аўторак, пераначаваўшы ў вёсцы. А як зганялі людзей у хату Сахарчукоў, з адчыненымі штыкамі, то казалі ўсім: слухалі вы раней рускіх мітынгаў, а цяпер паслухаеце нашага...

Не, гэта няпраўда, што Залешаны спалілі таму, што солтыса не знайшлі, ці каго партыйнага. Адразу мелі намер спаліць і пастраляць. Бо навошта салому ў хаты цягалі, і людзей збіралі? Каб толькі пастрашыць?

На месцы, дзе стаяла хата Сахарчукоў, зараз стаяць два крыжы: драўляны і каменны. А па другі бок вуліцы — абеліск: дата на ім чамусьці перайначана — не 29 студзеня, а 14. І піша, што людзей чатырнаццаць загінула. Няма імёнаў.

Мы пасядалі пад плотам, каля крыжоў. Яшчэ раз лічым пабітых.

Выходзіць больш за чатырнаццаць.

— Драўляны крыж трэба бы падправіць, а то перакасіўся, — кажа хтось з залешанцаў. — Трэба, каб памятка нашым дзецям і ўнукам засталася.

— Ніякіх унукаў па нас тут не застанецца, — кажа яму солтыс Міхал Леанчук. — Мы дажывем тут сваё, і будзе ўсё. І хатніскі нашы зарастуць травою...

Хатніска (месца пад хату) — я першы раз чую такое слова...

Штогод, 29 студзеня, людзі збіраюць грошы і заказваюць паніхіду ў бацюшкі ў Саках. Ідзе ўся вёска.

Пасля поўдня пачало збірацца на дождж. Чакаю, калі будзе вяртацца самаходам мой брат, што паехаў далей, на Грабарку. Нейк так зышлося, што будзем пісаць пра агонь і попел, і ён, і я. І пра памяць, хіба.

Я расказваю залешанцам, што даведаўся пра Зані і Яцовічы, што прачытаў пра „Бурага". „Бурага", дарэчы, яшчэ „не ўшанавалі". Прынамсі я не чуў. Але ягонага камандзіра „Лупашку" (Зыгмунта Шындзеляжа) — ужо так. Ягоным імем назвалі вуліцы ў Лодзі, у Сувалках...

Перад самым нашым ад'ездам вярнулася з царквы цётка Васіліса.

— Дзеткі, а навошта вам пра ўсё гэта пісаць? Пакіньце гэта, нашто наклікаць якую новую бяду.

Адчуваю, што нейк недарэчы гучаць мае рэплікі пра нашу памяць, пра гістарычную праўду.

Выязджаем з Залешанаў у пошугах ветру. У Залешанах шмат зелені. Калі стаяць у адным канцы вёскі, то хатаў амаль зусім не відаць за дрэвамі і агародчыкамі.

Калі-лень яшчэ вярнуся. Калі-лень, гэтае слова залешанцы не ўжываюць. Так кажуць у нас, у Ляхах. А тут наогул — калі-небудзь...

**Ян МАКСІМЮК**
„Ніва" № 34, 25.08.1991

## Мой клопат пра „Ніву”

Прывёз я з рэдакцыі 100 экзэмпляраў штотыднёвіка „Ніва” з беларускім календаром на 2016 год. З Эвай Дзеніс (яна мне выдатна дапамагла) усе сто мы прадалі ў пачатку студзеня гэтага года. Спадарыня Эва прадавала іх, між іншым, у Новым Ляўкове (найбольш), Старым Ляўкове і ў Плянце ды ўсім сваім знаёмым у Беластоку, Гайнаўцы і ў Круглым Ляску (Міхалоўская гміна). Зараз яшчэ маем ахвотных на „Ніву” з календаром. На некаторых пачакаем да канца зімы і тады яны вернуцца дадому.

У продажы былі ўжо № 1, 2 і 3 „Нівы”. Кожны тыдзень у каапэратыўную краму ў Нараўцы прывозілі іх сама менш па 9-10 экзэмпляраў. І я купляў іх і прывозіў чытачам у сваю родную вёску Новае Ляўкова, а таксама і ў Старое Ляўкова. Апошнім часам „Ніву” пачала чытаць, між іншым, Галена Бандарук, настаўніца на пенсіі, са Старога Ляўкова. Яна цяпер спявае ў мастацкім калектыве „Цаглінкі”. І варта дадаць, што члены калектыву купілі „Ніву” з календаром на 2016 год. Заказвалі яны яе ў мяне на месяц раней.

Вядома, што ў Нараўку (да яе 6 кіламетраў) па „Ніву” не кожны зможа пастаянна ездзіць. А цяпер, зімой, нападала шмат снегу і старэйшым ляўкоўцам цяжка дабрацца з прысёлкаў нават у вёску. Я вязу ім родную газету на калёнію. Зараз ёсць і так, што некаторыя чытачы „Нівы” „зімуюць” у сваіх дзяцей у горадзе. З Новага Ляўкова забралі іх у Беласток, Бельск-Падляшскі, Гайнаўку ды ў Элк. Я, солтыс Новага Ляўкова, наглядаю за іх хатамі. Тэлефаную нават у такім выпадку, калі каму перад домам зваліўся ад напорыстага ветру драўляны плот. А так зараз ёсць пасярэдзіне вёскі. А ўласнік гэтага дома і плота пражывае ў Варшаве. Ён чытае „Ніву” і ёю даражыць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Больш кватэр

У Беластоку камунальныя кватэры запатрабаваныя. Патрабуе іх некалькі соцень чалавек. Камунальныя кватэры будуюць для маламаёмных жыхароў горада, якія знаходзяцца ў цяжкай жыццёвай сітуацыі. Таму Праўленне камунальнай маёмасці плануе штогод будаваць чарговыя блокі.

У ліпені 2014 года новы жыллёвы камунальны пасёлак пачалі будаваць па вуліцы Бэма. Пад гэтага роду будаўніцтва на гэтым пасёлку ў гміне васьмігектарны ўчастак. Яго завяшчыў гораду ваявода.

У пачатку студзеня гэтага года ў новым камунальным 70-кватэрным будынку па вуліцы Бэма 100 „Ц” пасяліліся першыя сем'і. У ім найбольшыя кватэры маюць плошчу 62 квадратныя метры, а найменшыя — 27 квадратных метраў. Пабудова яго каштавала 9,5 млн. злотых. Пры тым з фінансавай дапамогай прыйшоў Банк краёвай гаспадаркі — успамог ён сумай 2,4 млн. злотых.

Варта дадаць, што па-суседску будуюць ужо два чарговыя блокі на 101 жылую кватэру. Пабудову іх пачалі ў чэрвені мінулага года і плануюць закончыць у снежні гэтага года.

## Запрашэнне да конкурсу

Таварыства сяброў Нараўчанскай зямлі запрашае ўсіх ахвотных да ўдзелу ў конкурсе пад загалоўкам „Ах, які ж гэта быў шлюб! — вясельныя абрады і абычаі Нараўчанскай гміны”. Рэпартажы, інтэрв'ю і фотаздымкі можна дасылаць да 30 ліпеня гэтага года ў Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы (адрас: ГАК, 17-220 Нараўка, вул. Новая, 3 „А”).

За дэталёвай інфармацыяй можна звяртацца ў гмінную бібліятэку ў Гмінным асяродку культуры — да бібліятэкаркі Анны Стульгіс (яна член праўлення ТСНЗ): нумар тэлефона да яе 85 685 80 34, у гадзінах працы бібліятэкі ад 10 да 18 у працоўныя дні.

**(яц)**

# „Сярожа”

28 студзеня ў кіназале „Форум” у Беластоку адбыўся ўводны паказ кінакарціны „Сярожа” аўтарства нашага беластоцкага тэлежурналіста Юрыя Каліны, зрэалізаванага для тэлеканала Белсат. Беластоцкая прэм'ера фільма была папярэджана так абвесткамі ў медыях, як і адмысловымі афішамі ў горадзе, якія і далі станоўчы вынік. Калі я з'явіўся перад кінатэатрам каля паўгадзіны да пачатку сеанса, застаў там ахвотны паглядзець карціну натоўп народу, які, быццам прытчавы вярблюд у ігольнае вушка, намагаўся ўвайсці на сеанс. Мне гэтая дапрэм'ерная карціна нагадала эпізоды не так даўняга мінулага, калі мясцовы народ з карткамі ў кашальках штурмаваў мясныя ці іншыя крамы для задавальнення цялесных патрэб. Або больш адлеглы народ нейкія важныя спартыўныя спектаклі, парадку, напрыклад, славутых Гран дэрбі, для задавальнення патрэб больш высокага парадку.

Мянушкай Гран дэрбі еўрапейскі футбольны народ назваў матчы паміж вядучымі іспанскімі камандамі з Мадрыда і Барселоны. І тое, што мела адбыцца ў Беластоку, гэта таксама быў фрагмент свайго роду дэрбі, толькі больш маштабных *Grandissimi derbi*, якія адбываюцца ў сусветным маштабе паміж Усходам і Захадам. Фільм меў расказаць пра ўраджэнца Залешан, што ў Кляшчэлеўскай гміне, дзе семдзесят гадоў таму праявілася дзікая ўспышка нянавісці вырастаючай менавіта з супрацьстаяння гэтых бакоў свету. Мяжа паміж гэтымі напрамкамі пралягае і цераз нашу не толькі тапаграфічную прастору; тут жа ж сутыкненне і моўнае, і канфесійнае, а калі хто хоча пашукаць яшчэ больш, то таксама знойдзе прастору для розных успышак. (*Пра трагедыю Залешанаў нагадваем на 3 стар. артыкулам Яна Максімюка з „Нівы” № 34 ад 1991 года*)

Наш народ мабыць рваўся на гэтае мерапрыемства быццам балельшчыкі пабалець за сваіх, быццам фанаты „Барселоны” ці „Рэала”. Бо хаця наша хата быццам з краю, то ўсё ж такі ў нашых душах жыве яшчэ пачуццё племяннай салідарнасці, за тутэйшых, за нашых. Гэта тычыцца галоўным чынам старэйшага і сярэдняга пакаленняў, бо хутка прагрэсіруючы ў глабалізацыю свет мяняе таксама галоўныя сячэнні, па якіх праходзяць грамадскія ідэнтыфікацыі.

Фільм „Сярожа” расказвае пра ўраджэнца Залешан Сяргея Нічыпарука, аднак матыў трагедыі гэтай вёскі не здамінаваў карціны. Дарэчы, рэжысёр фільма Юры Каліна патлумачыў, чаму так атрымалася. Менавіта аўтар фільма не хацеў зноў і зноў вярэдзіць тых набалелых ран, ён хацеў на прыкладзе жыццёвых лёсаў свайго героя паказаць, як заявістыя былі нашы, жыхароў гэтага нашага памежнага падляшскага куточка, лёсы. Як тыя лабірынты не звялі мясцовых людзей у нейкі тупік, што нашы людзі захавалі сваю высокую годнасць.

Галоўны герой фільма нарадзіўся пасля трагедыі, якая, аднак, моцна закранула ягоную сям'ю: загінулі яго два браты і іх маці з ненароджаным дзіцяткам. Сам Сяргей Нічыпарук нарадзіўся ад другой жонкі аўдавелага ў пагроме бацькі. Пазнейшы лёс спадара Сяргея напраўляе яго па вельмі розных жыццёвых азімутах і той усебаковы жыццёвы досвед выпрацоўвае ў яго вельмі гуманнае стаўленне да акружаючага яго космасу, якое ў фільме прэзентуе ён нашаму журналісту Яраславу Іванюку; пасля фільма спадар Нічыпарук больш дэталёва раскрые сваё жыццёвае крэда.

Сяргей Нічыпарук быў адным зانавальнікаў ячэйкі „Салідарнасці” ў Дубічах-Царкоўных. Наша вясковае грамадства вельмі скептычна ставілася да гэтага руху, аднак галоўны герой фільма Юрыя Каліны бачыў гэты рух у іншым ракурсе: „Трэба глядзець у будучыню, не абмяжоўваючыся адно да надзённага месца і хвіліны. Калі б мы сталі на абочыне таго агромнага грамадскага парыву, які памяняў аблічча вялікай часткі Еўропы, мы пасля маглі б саромецца гэтай адсутнасці. Я сам моцна сумняваўся перад далучэннем да гэтага зруху, таму што ў мяне быў адмоўны досвед ад першага палітычнага парыву, якім была ранняя




прыналежнасць да Партыі з надзеяй актыўнага ўздзеяння на папраўлянне свету сабе і іншым. З ходам часу мне стала ясна, што гэта немагчыма, а мой парыў быў вельмі наіўны, прынёс ён мне глыбокае расчараванне да палітыкі. „Салідарнасць” была таксама палітычным рухам з такімі ж прыметамі. Аднак неяк няёмка было стаяць збоку і пасіўна прыглядацца падзеям, дзе людзі неслі самыя высокія ахвяры Ідэі, бо ўчынкам бацькоў прыглядаюцца дзеці і ўнукі. І калі не паказаць ім адказнасці за свой лёс, то і яны астануцца збоку грамадства”.

Жыццё пераплеценае поспехамі і няўдачамі. Няйначай было і з біяграфіяй Сяргея Нічыпарука. Аднойчы панаракаў ён на невязенне прафесару Анджэю Стэльмахоўскаму, а той даў вельмі разважлівую трактоўку: „калі з многіх жыццёвых планаў здзяйсняецца толькі дзесяціна з іх, то такі чалавек павінен ужо адчуваць сябе вельмі шчаслівым чалавекам”. І ў цяжкія хвіліны шмат людзей старалася дапамагчы спадару Сяргею вызваліцца з турбот.

Сяргей Нічыпарук аднёсся не толькі да трагедыі жыхароў Залешан, аднёсся ён таксама да душэўных тузанняў сына „Бурага”, якому было чатыры гады, калі ягоны бацька зверскі распраўляўся з мірным насельніцтвам нашых вёсак толькі таму, што яно размаўляла на іншай, чым ён хацеў, мове. Ён стаў навуковым работнікам, але ў душы яго білася дылема: ці ён з'яўляецца сынам героя, ці сынам звычайнага бандыта? Яму хацелася верыць, што бацька змагаўся за Польшчу, што аддаў за яе жыццё. Ён выступіў у суд за рэабілітацыю свайго бацькі і той суд на працягу пятнаццаці мінут рэабілітаваў злачынца, зняўшы з яго ўсе правіны. Сын адчуў гонар за свайго бацьку, але гэта быў гонар ілюзорны. Бо пасля адбылося следства ІНП, ужо не так хуткае, не так безразважнае, але справядлівае. І перастаў сын „Бурага” ганарыцца сваім бацькам, цяпер ён ходзіць толькі ў касцёл і моліцца. Бо куды ж яму дзецца? Гэта постаць трагічная: як жа яму ставіцца да памяці свайго бацькі...

І трэба на гэтую падзею глядзець інакш. Мы дзяліліся ўжо вельмі працягла: на нашых і на не-нашых. Гэтага даволі. Неяк так дзіўна складваецца, што не заўважаем іншых людзей, пра якіх агульна прамоўчваем. „Буры” выдаў смяротны прысуд на ўсіх жыхароў Залешан, загадаў іх усіх бязлітасна спаліць жывымі. І калі сагнаў усіх іх у адну хату і загадаў яе падпаліць, паставіў яшчэ жаўнера са свайго атрада, з кулямётам, які меў пільнаваць, каб ніхто жывым адтуль не выйшаў. І той жаўнер не выканаў загаду ў ваенных абставінах і выратаваў усіх тых асуджаных людзей. Махнуў ім рукою: „уцякайце”; забраў кулямёт з сабою і пайшоў за атрадам. На судзе, у бадай 1949 годзе, суддзя спытаў таго жаўнера, чаму ён так зрабіў. А той адказаў: „Я не магу забіваць невіноўных людзей”. „А ці Вы былі свядомы таго, што Вас чакае, калі Вы не выканалі загаду?” — „Так, я быў свядомы, мяне магла чакаць смерць, але Бог мне дапамог і я жыву”. І ў гэтай трагедыі трэба бачыць не толькі адмоўнае, але таксама і станоўчае. І перад тым, калі каго абвінавачваць, трэба задумацца і пра саміх сябе, якімі людзьмі мы з'яўляемся — перад тым, калі браць той з евангельскай прытчы камень і кідаць ім: „Калі ты безгрэшны, кінь у грэшніцу камень”.

Сяргей Нічыпарук выбіраў розныя азімуты ў лабірынце свайго жыцця. Ён быў і цесляром, і мясніком, і прадпрымальнікам. А выходзіла ўсяляк, нават правальна. І ягоная неспакойная душа адчула ў адзін момант патрэбу паглыбленай духоўнасці і ён паступае ў духоўную семінарыю. І, здаецца, што гэтая навука быццам стала духоўнай рыскай, падводзячай ягоныя рознабаковыя жыццёвыя пошукі. Нягледзячы на вельмі балючыя сямейныя ўспаміны, яму чужая тая старазапаветная прыродная помслівасць „вока за вока, зуб за зуб”. Ён прапаведуе выплываючыя з Евангелляў заклікі: касцельны — „падайма сабе знак міру” ці такі ж і царкоўны — „мірам Госпаду памолімся”.

Штосьці мне здаецца, што не ўва ўсіх нас жывуць гэтыя прынцыпы. Ну, рвануліся людзі на сеанс натоўпам у парыве той племяннай салідарнасці з пакрыўджанымі. Цікава толькі мне, ці калі б сямейнікі пацярпелых атрымалі кампенсацыю, гэтак жа як атрымаў сын „Бурага”, то наш так спачувальны народ быў бы гэтак жа з імі салідарны... Але, зноў штосьці мне здаецца, што дарма выглядаць тае кампенсацыі. З нашага варшаўкавага мяшочка, нягледзячы на яго больш ці менш шляхетныя вонкавыя лозунгі, увесь час выглядае нам тое ж самае, добра нам вядомае, племянное шыла. Хаця свет, быццам глабалізуецца...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# „Па-просту” — не значыць проста

Мы ўсё яшчэ можам пачуць яе на вёсачках, пераважна ад пажылых людзей. Маладыя, хоць у асноўным усе яшчэ добра разумеюць, не часта карыстаюцца ёю штодзень. На працягу гадоў прымушаныя, каб хутчэй за ўсё знішчаць, чым берагчы беларускі дыялект, Сакольшчына пачынае размаўляць па-просту ў публічнай прасторы.

Жыхары Сакольшчыны, вырасшы і выхаваўшыся ў беларускіх дамах у атмасферы беларускай мовы, хаця любяць яе, таксама маюць пачуццё яе горшасці. Без псіхалагічных бар'ераў могуць размаўляць па-просту з бацькамі, са сваякамі. З імі так гаварылі заўсёды, перад імі няма сэнсу хавацца. У зносінах з чужымі размова пабеларуску прыходзіць з цяжкасцю.


Фота Уршулі ШУБЗДЫ

■ Галіна Радуха з Вострава

— Я скажу на сваім прыкладзе. Калі я была малая, бацькі вучылі мяне простай мове. Да сёмага года жыцця я не гаварыла па-польску, — кажа Галіна Радуха з Вострава на Дуброўшчыне. — Помню па сённяшні дзень, як настаўніца запытала вучняў як яны называюцца. Я прадставілася на мове маіх бацькоў. Для мяне тады гэта было натуральнае. Аднак аднагодкі пачалі смяяцца. Я толькі што ў школе пачынала вучыцца польскай мове. Аднак адчула я тады сорам, хаця ў маёй вёсцы Востраве ўсе так размаўлялі. I сорам гэты застаўся, каб не вучыць гэтай мове сваіх дзяцей, каб не ўспрымалі іх як рускіх ці беларускіх.


„Teraz usie śpiaszajutsa, ni majuć czasu na niszto”. Rusza nasz nowy BLOG - PA PROSTU

На самой справе ўсе, а асабліва тыя, якія яшчэ змагаюцца, але і тыя, якія ўжо страцілі надзею, інстынктыўна лічаць, што нельга дапусціць, каб беларуская мова на Сакольшчыне замоўкла. Людзі ў гэтым рэгіёне Падляшша адчуваюць сваяцтва з тымі, якія яшчэ „гавораць”, таму што родная мова прымушае думаць пра дом, пра сям'ю, асацыюецца з усім тым, што знаёмае і нашае. І нам усім балюча, што родная мова знікае. Некаторыя з нас спрабуюць задушыць боль у сабе, іншыя адкрыта маніфестуюць свой супраціў. І жаль выходзіць з нас у розных сітуацыях і ператвараецца ў пачуццё віны, выклікае прэтэнзіі да суседзяў, да свету, да гісторыі, якая знішчыла тое, што нам дарагое. Калі наша тоеснасць, наша мова будзе належным чынам абароненая, скаргі і прэтэнзіі былі б прыглушаны.

— Надыходзіць такі момант, калі ў канцы хтосьці на нейкім сайце, дзесьці публічна карыстаецца простай мовай, штосьці ў людзях можа зварухнуцца, нехта задумаецца, — кажа Галіна Радуха. — Усе пачынаюць гаварыць аб гэтым і наша мова пачынае быць моднай. Мы гэта хочам паказаць людзям, прыпомніць яе. Вяртаем нашу мову ў публічную прастору. А ў будучыні, гэта мая мара, можа яе будуць вывучаць у школе.

Сакольскі дыялект беларускай мовы адраджаецца. На інфармацыйным сайце iSokolka з'явіўся новы блог, у якім паяўляюцца тэксты на мясцовым дыялекце. Гэта выклікала пазітыўны і шырокі водгук сярод карыстальнікаў сайта. Сведчыць гэта аб жывым зацікаўленні тэмай, аб ролі роднай мовы на Сакольшчыне.

Аўтарка блога Галіна Радуха кажа:

— Такі блог можа падабацца маладому пакаленню, можа прыцягнуць людзей. Мне весці блог запрапанаваў рэдактар сайта **iSokolka** Пётр Бізюк. Я вельмі ахвотна згадзілася пісаць тэксты па-просту. Хачу падтрымаць нашу мову, хачу перақазаць яе маладому пакаленню. Можа яны таксама пачнуць гаварыць на ёй. Вельмі жывая дыскусія пад маімі тэкстамі вялася на фейсбуку. Там маладыя людзі не толькі каментавалі змест артыкулаў, але таксама стараліся пісаць па-просту.

Увядзенне сакольскага дыялекту беларускай мовы ў прастору публічнага жыцця сведчыць аб гэтым, што пачынаем вырастаць з комплексаў і нажытых стэрэатыпаў. Аднак што з'явілася прычынай нашага сораму з-за мовы? Несумненна, вялікую ролю адыгрываюць набрынялыя комплексы, набытыя людзьмі на працягу дзесяцігоддзяў прыняжэння яе, выціскання са школ і іншых грамадскіх месцаў. Была яна прадстаўлена як мова неадукаваных простых мужыкоў, недастойная культурнаму чалавеку. Такім чынам жыхары Сакольшчыны дазволілі ўгаварыць сябе ў тым, што іхняя мова — недасканалы дыялект польскай мовы, якога як найхутчэй трэба пазбыцца. Адбылося гэта не без дапамогі прафесараў, некаторых мовазнаўцаў з метраполій, якія і зараз пераконваюць, што сакольскі дыялект гэта польская мова з прымессю русізмаў, беларусізмаў ды іншых мясцовых слоў. А карыстацца ёю публічна не прыстоіць. Цалкам нядаўна, бо два гады таму, у Сакольцы прайшла канферэнцыя, прысвечаная мясцовай мове, у якой, здавалася б навуковыя аўтарытэты, сілком стараліся даказаць, што сакольскі дыялект не залічаецца да беларускай мовы. Гэта дадаткова ўмацавала памылковыя погляды некаторых жыхароў Сакольшчыны на іхнюю мову. Згэтуль бяруцца комплексы, тлумачыць на новым блогу, азагалоўленым „Па-просту”, Эдуард Гарштынскі (дарэчы, лаўрэат апошняга літаратурнага конкурсу беларускай паэзіі і прозы „Дэбют”): *Przede wszystkim gwara kojarzy się ze wsią, więc według rozumowania współczesnych ludzi gwara = wiocha. Mało kto wie, że jest to dialekt języka, którym posługiwali się szlachcice i litewscy książęta. Oprócz tego był to język urzędowy Wielkiego Księstwa Litewskiego i w tej samej mowie jest spisany akt nadania praw miejskich Sokółce.*

Пакуль што тэксты, якія змяшчаюцца на новазаснаваным блогу „Па-просту”, збіраюць шмат каментарыяў ад карыстальнікаў сайта. На форуме вядуцца бурлівыя дыскусіі адносна мовы, звычаяў ды гісторыі Сакольшчыны. Блог схіліў людзей да задумы над усё ж такі яшчэ жывой мовай. Магчыма, гэта штуршок да глыбейшага спазнання дыялекту, на якім заўсёды тут размаўлялі. І які, на думку Галіны Радухі, не будзе атаясамлівацца з нечым горшым, а стане модай.

Уршуля ШУБЗДА

## Навагодняя сустрэча ў Сопаце

Традыцыйна ў студзені сустракаемся зараз пасля нашага Новага года паводле старога стылю, абавязкова ў студзені. Сёлета сябры «Хаткі» сустрэліся ў суботу 23 студзеня ў памяшканні па вуліцы 3-га Мая ў Сопаце.

Першапачаткова дамовіліся сустрэцца 16 студзеня, але хвароба, ці можа больш дакладна грып, не ведаючы пра нашы дамовы, проста прымусіў ляжаць у ложку, прымаць лякарствы і чакаць Божага змілавання. На шчасце тыдзень пазней усе сябры сустрэліся здаровыя і, як бачым на здымку, вельмі радыя спатканню. Пажаданням здароўя і шчасця ў новым годзе не было канца.



Старажылы расказвалі, як калісь, яшчэ перад вайною, святкавалі Божае Нараджэнне на Беларусі. Малодшыя старажылы, больш-менш 70-гадовага ўзросту, прыгадвалі святкаванне Раждаства, напрыклад на Гайнаўшчыне ў зараз праваслаўных вёсках, а калісь уніяцкіх, на мяжы Вялікага Княства Літоўскага і Польскага Каралеўства. Ці былі ёлкі, што такое кісель, з аўса (?), як ён смакуе? Куцця? Я прынамсі не помню, каб еў куццю з мёдам, а адкуль мёд, гэта ж рарытэт на вёсцы. Сена пад настольніцай, пэрэпэліца ў кутку пад абразам, селядцы, кампот з сушаных яблык ды груш, лазанкі з макам, суп грыбны — атрыбуты вігілійнай вячэры ў маёй сям'і. Думаю, што і ў іншых махнацкіх сем'ях таксама.

Не ўсюды на Беларусі, тым болей ва ўсходняй яе частцы, традыцыі вігілійнай вячэры, як кажуць маладыя эмігранты з Беларусі, не было, толькі Новы год, які сустракалі ўрачыста.

Успамінаў было многа, пажаданняў, перш за ўсё здароўя, таксама. І каб была праца, хто працуе, і каб сустрэцца праз год прынамсі ў такой жа кампаніі як цяпер.

Для «Нівы» ў новым 2016 г. жадаем, каб перш за ўсё існавала і друкавала цікавыя публікацыі.

**Тэкст і фота Міхася КУПТЭЛЯ**

## Першая сёлетняя сустрэча пенсіянераў

24 студзеня гэтага года ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы (Гайнаўскі павет) ладзілі першую сёлетнюю таварыскую сустрэчу для пенсіянераў. Прыехалі і прыйшлі на яе сеньёры з розных вёсак, між іншым з Нараўкі, Альхоўкі, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Скупава і са Стачка.

Да танца падыгрываў аркестр з Гайнаўкі. Па зале плылі мілагучныя мелодыі. Панавала прыемная і сардэчная атмасфера. Вядучая культурна-забаўляльнае мерапрыемства Ядвіга Карпюк, старшыня Раённага праўлення Польскага саюза пенсіянераў у Нараўцы, арганізавала шматлікія гульні і конкурсы, між іншым, „Мікрафон для ўсіх” ды крыжаванкі.

Свае любімыя беларускія песні прыгожа заспявалі Валянціна Галабурда, Яўгенія Лабаноўская, Зіна Пацэвіч, Вольга Сачко, Юрый Кісялеўскі і Павел Леўша. Яны атрымалі ўзнагароды. Усе ахвотныя рашалі крыжаванкі і хто першы рашыў правільна, таксама атрымаў узнагароду.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Успаміны грыбніка

За нашай сядзібай пралягае шырокая паласа лесу. Лес і натура вабілі мяне з дзяцінства. Збіранне ягад і грыбоў гэта своеасаблівы атракцыён для дзетак і дарослых. У вёсцы ўсе збіраюць грыбы. Адны рыхтуюць запасы на зіму (сушаць, робяць марынады), іншыя прызначаюць грыбы на продаж. Наш лес багаты лісічкамі, баравікамі, краснюкамі, маслякамі, зялёнкамі ды іншымі.

Зацікаўленне збіраннем грыбоў пераняў я ад бацькі. Быў ён вядомым грыбніком. Памятаю, як будучы падлеткам запускаліся мы з бацькам і малодшым братам у грыбы. Выходзілі на досвітку, вярталіся за поўдзень з поўнымі кошыкамі мажных баравікоў. Збіранне грыбоў пачыналася ў нас ужо напрадвесні, калі на зломе сакавіка-красавіка высыпаліся першыя смаржкі. Выраслалі яны кучкамі побач пнякоў і пад галінкамі ссечанай хваіны, калі яшчэ снег залежваўся ў лесе. Бацька нанізваў смаржкі на ніткі і вяночкі з іх завешваў у цянькy пад саламянаю страхою. Сушаныя грыбы вазіў прадаваць у Варшаву. Добра цаніліся. Гаварыў, што смаржкі выкарыстоўваюцца для вырабу фармацэўтычных сродкаў. Часам матуля іх варыла, затым падсмажвала на алею. Але трэба было на скваркі падсмажваць, бо інакш маглі быць праблемы са страўнікам.

Калі не стала бацькоў, мы з братам заняліся грыбным бізнесам. Кожны сабе, для сваёй сям'і. Я дабіўся значнага прыбытку, калі перавялі мяне на работу з Семяноўкі на станцыю ў Чаромсе. Працаваў я ў канторы перадачы пазменна. Шмат было вольнага часу. Запускаўся тады ў лес «на паляванне». Ведаў кузаўскі лес як сваіх пяць пальцаў. Не збіраў кампанію, каб не выявіць грыбных месцаў. Такім прынцыпам карыстаюцца грыбнікі.

Сушаныя і марынаваныя грыбы чарамшане вывозілі ў Варшаву. Кожны меў знаёмага сабе гандляра на базары Ружыцкага, што знаходзіўся непадалёк Усходняга вакзала. Толькі два аўтобусныя прыпынкі далей. Але з гаматным багажом нявыгадна было дабірацца на аўтобусе. Затым наймалі насільшчыкаў, якія багаж перавозілі на рынак акумулятарнымі ваганеткамі.

Чаго там не было на базары Ружыцкага? Казалі, што нават кулямёт «Махім» можна было купіць. Чаромхаўскіх чыгуначнікаў-грыбнікоў цікавілі перш за ўсё партманэ-маргалкі з фотамі японскіх кінаактрыс. Я вазіў найчасцей свежыя рыжыкі і баравікі, а перад Калядамі — марынады ў літровых банках і сушаныя белыя грыбы. Памятаю, што за свежыя рыжыкі і баравікі гандлярка плаціла па восем злотых за кілаграм, а за літровы слоік марынаваных — 18-20 зл. Мой тавар быў адборны, таму перакупшчыца брала без запінкі два разы даражэй. Але я не спрачаўся, бо забірала ў мяне грыбы оптам і я мог адразу падавацца ў мясныя крамы за пакупкамі. А тады вэнджаныя вырабы былі больш даступныя ў сталіцы і таннейшыя, чым у Чаромсе.

У кузаўскія і навакольныя лясы прыязджалі гараджане на аўтобусах з Седльцаў, Варшавы, а нават са Скернявіцаў. Грымеў тады кузаўскі лес ад воклічаў. Грыбнікі перамешваліся паміж сабою — тутэйшыя з прыезджымі. І ў кожнага былі ў кошыку грыбы рознага віду. Памятаю, як чаромхаўскія начальнікі арганізавалі грыбныя паходы для «варшаўскай вярхушкі». Загадвалі рабочым у час выканання службовых абавязкаў падавацца за грыбамі. Гэтыя пяць-шэсць гадзін збіралі грыбы, затым вярталіся з поўнымі кашамі. Сабраныя грыбы грузілі ў кардонныя каробкі і як «асаблівую» пасылку адпраўлялі ў сталіцу. Іншым разам вярхушка з цэнтральнай дырэкцыі прыязджала на месца ў Чаромху і забірала пасылку на месцы. Такім чынам начальнікі выраблялі блат у сталіцы.

Зараз можна адно ўспамінаць мінулыя будні. Хоць чыгуначнікам жылося тады бядней, але жыццё, здаецца, было весялейшае.

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі




Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ з "Зоркай"

Міра ЛУКША

## Чорная вольха

Мочыць ногі ў вільгаці каралеўна гаю,
ды голле кучаравае высока трымае.
Чорная вольха, ды драўніна светлая,
на паветры паляжыць — чырвоная, спелая.
З матэрыі ў энергію агнём узгарае,
з комінаў сажу счысціць, пад неба ўзлятае.
У зямлю ўрасце нанова як слупок у плоце,
як шпулька ці чаўначок пасобіць у рабоце,
і нават добрай скрынкай для далікатэсаў, вінаў
стане буйнаслойная, мяккая, лёгкая драўніна.
Яшчэ і фарбуюць шоўк, сукно, іншыя тканіны
карычнева, жоўта, чорна, чырвона альшынай.
Пілавінне і габлюшка ўвэндзяць смачна мяса,
паляндвіцы, кумпякі, сала і кілбасы.
Але чорная вольха нават і ў цёмных месцах
знойдзе сваё ціхае й моцнае месца:
у водаправодным жолабе, у калодзежа кругу,
у шахце жылістай будзе падпоркай пад вугаль.
А лісточкі пасмакуюць дзікія жывёлы,
і каза, і авечка, і трусік, а пчолы
з пылку і пупышак зробяць прапаліс і мёд,
а лекамі ўзмоцніцца чалавечы род,
што зроблены з шышак, лісця і кары.
Ды лепш хай наша вольха расце на двары,
хай жыве, зялёная, вецер ачышчае!
Няхай каралеўнай будзе ў кожным гаі.

# Айчына і космас

**«Ніхто не будзе забараняць мне / гаварыць на роднай мове!»** — заўляе ў сваім вершы Вераніка Кардзюкевіч. Гэта немагчыма. «Радзіма — гэта я. Мае думкі, маё жыццё» — сцвярджае беластоцкая гімназістка ў вершы «Сяброўства з Бацькаўшчынай».

Вераніка з першага свайго верша піша пра Айчыну. Яна ў малітве, у штодзённых занятках, ва ўсходзе і захадзе сонца. І галоўнае — у думках і сэрцы. Айчына — гэта таксама родная мова. Хоць яна прызабытая, жыве ў закавулках свядомасці. Бо для Веранікі разуменне Айчыны — самаразвіццё, пошукі каранёў, адукацыя. Там прыхаваныя небывалыя тайны.

У апошні час Вераніка сама спазнала такую тайну. Аказалася, што ў сям'і былі выдатныя беларусы. Мова пра мастака Язэпа Драздовіча. Сваяцтва з вялікім мастаком гэта не толькі гонар, гэта вялікі выклік. Зараз Вераніцы трэба даведацца як найбольш пра мастака. Мы не сумняваемся, што пошукі прынясуць шмат задавальнення. Язэп Драздовіч — мастак «касмічны», ён сам напамінае фільмавых герояў «Зорных войнаў», якія стаяць па ясным баку моцы любімай Беларусі.

**ЗОРКА**, фота Ганны Кандрацюк

Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ
Грабаўка, Гімназія Кірылы
і Мяфодзія ў Беластоку

## Беларусь

Радасць мая
Любоў мая
Айчына любімая...

Мой усход сонца
Мой захад
Мая мова

Ты ўсё ведаеш пра мяне,
Знаеш мяне і разумееш...

Радасць мая
Любоў мая
Айчына каханая

Я люблю Цябе...

## Сяброўства з Бацькаўшчынай

Мы знаёмы ад народзінаў
Жывем разам кожны дзень
Маем такія самыя думкі...

Там дзе Ты, там і я,
Ніхто нас не разлучыць,
Ніхто не будзе забараняць мне
гаварыць на роднай мове!

Ты мая адвечная сяброўка
— Беласточчына!!!

## УВАГА КОНКУРС! № 06-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 14 лютага 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Стаіць у лесе
дрэўца,
пад ветрам
лёгка гнецца,
а гронкі
ягадак гараць,
і снегіры
да іх ляцяць...
Хто здагадаецца,
як дрэўца называецца?
А......**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 2-16: зіма, вясна, лета, восень. Узнагароды, кубачкі з беларускім узорам, выйгралі Ігар Кардаш з Нарвы і Карнелія Барэчка з Нараўкі. Віншуем!**

Мартына АНДРУШКА, Тыльвіца-Маёнтак, ПШ у Міхалове

# Герой

Добра памятаю, калі мама вучыла мяне першых літар. Гэта было для мяне сапраўды дзіўнае і незразумелае. Як з гэтых значкоў можна чытаць, пісаць? Мае думкі больш займалі лялькі. Але мама штодзень мяне вучыла і са мной гаварыла. Помню першае слова, якое я напісала самастойна і потым прачытала. Тады я ўжо зразумела, якая важная і цікавая родная мова, я самая хадзіла да мамы на навуку. Ад таго часу вучоба была лягчэйшай.

Дзед Мароз прынёс мне першую кніжку з казкамі, і я сама ўсю яе прачытала! Нават старэйшыя браты знаходзілі час, каб слухаць майго чытання. Неўзабаве надышоў час школы. Я стала першакласніцай! У мяне было раптам многа сяброў! Але чаму мама не сядзела са мной за партай? Гэта ж мая каханая сяброўка! У школе ўвесь клас вучыла адна асоба — настаўніца. Для мяне гэта было дзіўным. Павольнымі крокамі я пачала больш пісаць, цалкам складаная справа — пісанне. Штодзень я з вялікайуwагайпрыслухоўвалася, што кажа настаўніца. Вучоба мне вельмі падабалася, таму першы год прайшоў хуценька і я стала выдатніцай!



Мае першыя вакацыі? Памятаю толькі бібліятэку з кніжкамі ў маёй цёці. Так мне падабалася, што дома я зажадала мець такую ж самую. З той пары я ўсе грошы распускала на кніжкі. Першай кніжкай былі казкі Андэрсена. Міналі гады, а кніжак, дзякуючы маме і бабулі было ўсё больш і больш. Я карысталася таксама і школьнай бібліятэкай. Кожная кніжка так мяне цікавіла, што я сама хацела стаць іх героем. У большасці героямі былі хлопцы, таму і цяжка было сабе ўявіць дзяўчынку на іх месцы. Мая сяброўка не магла паверыць, як можна жыць фантастыкай і расказала ўсім аб маім хобі. Аднакласнікі зразу назвалі мяне лунаючай у аблоках. На шчасце мама і ў той час паратавала мяне словамі: «Той, хто не марыць, цяжкае жыццё вядзе!»

Калегі ўсё ж гаварылі пра мяне непрыемна, але я не глядзела на тое.

Навука стаяла ў мяне на першым месцы, таму я ніколі не наракала на ацэнкі. Але мая сяброўка, якая смяялася з мяне, патрабавала дапамогі. Я не хацела ёй памагаць, але ўсё ж памагла і яна са мной да сённяшняга дня. Зноў наступіў час вясёлы — вакацыі. Гэтыя я вельмі хацела правесці дома з матуляй. Штодзень я памагала дома, каб мамачка магла хоць крыху адпачыць пасля работы. Мая мама гэта цудоўны чалавек, а яе падзяка за маю работу найбольшай каштоўнасцю — простае слова «дзякую» і ўсмешка. Неспадзявана я захварэла. У гэты цяжкі час толькі яна, мама, пры мне была. Для нашай двойкі гэта доўгі час у бальніцы. Многа прачытаных разам кніжак. І тады я першы раз убачыла не героя, а гераіню, якая заўсёды разам са мною...

## Як гэта робяць у Гарадку?

Чаму ў пачатковых класах найбольш аматараў беларускай мовы? За гэтым прамаўляе прыродная цікавасць дзетак. Дзіцячы беларускі свет надзвычай каларытны і казачны. Гульні і казкі многаму вучаць, яны таксама наклікаюць добрыя думкі, шмат ідэй, чыстую радасць і забаву. Гэта ведаюць дзеці, якія ходзяць на ўрокі беларускай мовы.

У Гарадку, як ніколі раней, многа першакласнікаў. Запісацца на ўрокі заахвоцілі іх крышачку старэйшыя сябры. Год раней дзеці з пачатковых класаў развучылі шмат беларускіх сцэнак:

— І яны пайшлі ў прадшколле, каб паказаць сцэнкі малодшым дзецям, — кажа дырэктар Данута Гаркоўская.

Гэта, на думку спадарыні дырэктар, была самая лепшая форма прамоцыі. Пасля многія дзеткі запісаліся на ўрокі. Зараз яны самі рыхтуюцца да выступленняў. Пойдуць у свой былы садок і выступяць перад малодшымі сябрамі. Апрача гэтага чакаюць іх школьныя мерапрыемствы і конкурсы. У пачатковай школеў Гарадку каля сотні навучэнцаў беларускай мовы, з чаго ажно 65 асоб гэта вучні класаў I-III. Беларускай мове навучае спадарыня Тамара Бялькевіч. Яна піша спектаклі, рыхтуе мастацкія выступленні і заняткі па рукадзеллі для дзяцей.


Фота Ганны Кандрацюк

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа



### Хто заслужыць на неба?

Настаўнік Божага закона
Тлумачыць боскія каноны:
— Як жыць на свеце трэба,
Каб заслужыць на неба?

— Неба даступнае не ўсім, —
Сказаў дапытлівы Максім. —
Ад неба, Божа барані,
Хто мае боязь вышыні!

### Валянцінкі

Напярэдадні Валянцінак
Прыйшоў у кнігарню хлапчына.
Яму сёння толькі цікава
Адна найважнейшая справа.

— Прашу абавязкова
Дзесяць прыгожых паштовак
З надпісам — мой напамінак —
„Dla Ciebie, moja Jedyna!"

## Польска-беларуская крыжаванка № 6-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2:**

Вяз, шум, нагода, ах, Нур, душ, ціш, матылёк, каханак, рад, фен. Шах, дух, мак, хутар, шына, зад, лад, цёк, конік, душ, парасон.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Габрыся Карбоўская**, **Агнешка Саўчук** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Віялета Смалюк**, **Вольга Мішчук**, **Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Ігар Кардаш** з Нарвы, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Анна Радзівончык** з Нараўкі, **Ружа Марчук** з Новага Корніна, **Марлена Лабаноўская** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ono | | | | | | | Pokój / Cel | |
| Jakucja / Wieczór | | Zdanie | Kadr | | Czy | Mgnienie | | |
| | | | | Słoń | Burmistrz / Mika | | | |
| | Wosk / Kosmita | | | | | | | |
| | Odwilż | | | | | | | |
| | Wzorek | | | | | | | |
| | | Re | Lud | | | | | |

# На памяць УСІМ замучаным, расстраляным, спаленым, вывезеным у час вайны — на 70-годдзе яе пераможнага заканчэння.


-59-
Сам плакаў!.. І цалаваў Надзін

-58-
Nadine папрасіла: — Герр Бухгольц, вы будзеце ведаць, прапішыце слаўцо ў Любеку, папытайце пра завод, ён на Фрыдрыхштрассе, там Тамашка, Касцюшка... Трэці месяц няма пісьма, а там былі таксама самалёты!..

Марыя САШКА

# GRANDE VALSE BRILLANTE

частка VII

Праз месяц — неба зноў услалася цемнатой. Гэта самалёты закрылі сонца!.. Яны ляцелі высока, значыць д-а-л-е-й, пэўна на Кіль і Любеку, мо й на Шверын ці Расток?.. У Любецы на заводзе быў Тамашка. Ён — не змог прыехаць!.. Учора прыйшло пісьмо: іх перавозяць на захад, у Дзюсельдорф, адлучацца нікому не даюць!.. Самалёты, вось, паляцелі — да іх!!! Яны ўспелі выехаць?!. Надзін закамянела, ведала толькі: абглядзіць малога і — у парнікі, у агарод!!! Калі б НЕ ГЭТА — яна магла б а-ш-а-л-е-ць!!!

Паўля завезлі ў Гамбург... Кантузія!.. Ён чуе, трудней з левым вушкам... Але — мова можа і не вярнуцца, ніколі!.. Ён пачаў лепш есці, спаў, ужо больш не зрываўся, не крычаў, але і не разлучаўся з Надзін...

Nadine папрасіла: — Герр Бухгольц, вы будзеце ведаць, прапішыце слаўцо ў Любеку, папытайце пра завод, ён на Фрыдрыхштрассе, там Тамашка, Касцюшка... Трэці месяц няма пісьма, а там былі таксама самалёты!..

— Добра, донька!.. — так гаспадар яе цяпер называў увесь час! Ён напісаў і другі ліст, у Осла, Курту і сястры сваёй, Элізе: — У нас тут, хоць быў налёт, усё ціха, жывем спакойна, працуем... Цалуюць вас усіх нашы: мама-бабка-Грэтхен, мама Шарлота, малы сарванец Паўль — які як на дражджах расце, разумнік і красаўчык, і я, ваш стары Франц!.. І ў-с-е работнікі нашы ў здароўі, ніхто тут не загінуў! Усё стаіць на даўнім месцы!.. Гаспадар Бухгольц в-е-д-а-ў, што для К-у-р-т-а значаць словы «ўсе работнікі нашы ў здароўі»!.. Перад ад'ездам Курт сказаў сваім бацькам, п-р-ы-з-н-а-ў-с-я!, Надзін!!! Маці толькі пацалавала яго (Шарлота расплакалася) і сказала: — У г-э-т-ы ч-а-с нельга т-а-к, сынок! Ты Надзін п-а-ш-к-а-д-у-й!.. Бацька толькі сардэчна а-б-н-я-ў яго!

У пачатку 1944 года прыйшло пісьмо з Любекі: на заводзе не асталося нічога і нікога!.. Ці адсюль хто выязджаў-пераязджаў у другое месца — не было ні слова!.. Надзін пераплакала ўвесь дзень!.. Паўль уцішаў яе плач, гладзіў па твары, хацеў нешта сказаць — не выходзіла!... Ручкамі паказваў!.. Сам плакаў!.. І цалаваў Надзін!..

У сакавіку, у суботні вечар, на ферму прыехаў самаход.. З Куртам і цёцяй Элізай!.. Першы да іх кінуўся Паўль, п-а-з-н-а-ў!.. Курт расплакаўся, цётка не ўнімалася з братам сварыцца: бо я-к можна?!. Курт сказаў: — Тата, мы дагадаліся! У тваім пісьме ўсё было «задобра»!.. Пасля такіх налётаў?!. Гэта, вось там — м-а-г-і-л-а?! Т-а-м была іх с-м-е-р-ць?!. Пайду т-у-д-ы!!! Тата, мы паможам! Ты нас з цёткай прымеш у парнікі?!. Надзін будзе камандаваць!.. Nadine — табе паклон д-а з-я-м-л-і!!! За ўсё-ўсё, бо мне і пытаць не трэба!!! Усё ты!!! Я ведаю!!! І — Паўль, ён жа з тваіх рук не злазіць!!! Скажы — Тамашка піша?.. — Ну, час такі — будзе, прыйдзе ліст! Да цябе прыйдзе ліст або Тамашка!!!

— Сынок Курт, мы тут пагаварылі з цёткай; ёй з сэрцам — нядобра, ты адвязі яе дамоў, у Осла!.. — Тата, не гэта ж галоўнае, праўда?.. — Праўда, дзіця маё, трэба паступаць па-разумнаму!!! Я пры Nadine гаварыць буду — яна зразумее і па-нашаму, бо й яна гэта ведае! — Я не сляпы і ты ведаеш, што праз твае тут прабыванне — новая смерць да нас прыйсці можа!!!

Nadine?! Што я тут бяз яе? Што Паўль?!. Я ўсё даўно бачыў і ведаў, хто Nadine для цябе!!! І ты, як жа добра ведаеш! Што нашы «паны-начальнікі» нас НЕ пахваляць, яна ж славянка польская! Мы не сахранім Nadine, яе аскаржаць!!! Сам ведаеш — вайне будзе скора канец, тады й глядзець будзем што і як, і хто з кім!!! Едзьце — пакуль тут у нас яшчэ мала-мальскі спакойна ды ў Нарвегіі не ўсё яшчэ ўзарвалася!.. Мы тут якасьці можа ўхаваемся! Да нас, пэўна, англічане з амерыканцамі прыйдуць, а мо і рускія іх апярэдзяць, яны ж ужо пад Польшчай — да нас ідуць!!!

Ну, будзем развітвацца!.. Эліза — апякуйся Куртам, гарачай яго галавой!.. І сама за сабой глядзі, Эдуарда свайго слухайся — а то ты там — камендант цэлы! Усё сама цягнуць любіш!.. Яды вазьміце, варыва з пуд! Тут завязем, з Гамбурга ж — карабель, хай цягне!. З Богам, шчаслівa!..

Пад вечарок, калі Осла пакрыў ужо начны туман, у дом Бёрнсанаў хтосьці лёганька пастукаў у дзверы... Адкрыла гаспадыня, цётка Эліза... І — а-б-а-м-л-е-л-а!.. Перад ёю стаялі два сыны яе школьнай сяброўкі Гамсун: Людвіг і Кнут!.. Акрываўленыя!.. Яна аб нічым і не пыталася! Крыкнула, зачыніўшы паспешна дзверы: — Курт, у каморку на гары!... — Эдуард, аптэчку, ваду!.. Дзверы — на штабы!.. Вокны! Шторы! Закрывайце!..

Хлопцы — што вам? Рука і плечы?.. Гэта — што ўчора ля вакзала рвалася?!. Наверх!.. Там будзе ваша месца! Там толькі дахавы шклаблок! Спакойна, знікуды не відна! Яго мы на ноч закрываць, засланяць будзем! Я бацькам пазваню! Ідзіце! Зараз накармлю!..

Назаўтра зазваніў званок ля дзвярэй... Сястра Эдуарда!.. — Учора поезд узляцеў з немцамі, ледзь ад'ехаў з вакзала!.. У нас ноччу былі з сабакамі, усюды заглядалі!.. Я сёння і есці яшчэ не варыла, бягом да вас — як вы? Званіла — вы й не прымалі!.. Ты, Эліза, маеш што? — дай нам!.. Во, а што гэта ў цябе гаршчок якісь на дзесяць асоб, вас колькі ж?..

— Ды які пад руку падпаў, Анна! Вось і ты паясі і Антону возьмеш. Эдуард завязе-праводзіць, аўтобус жа ў нас з-пад хаты!.. Курт, ты астанешся, у магазін пойдзеш!..

Калі Эдуард і Анна сядалі ў аўтобус, на вуліцу ўварваліся нямецкія самаходы... Рэвізія, значыць!.. З сабакамі!.. Увесь горад чэшуць!.. Значыць, збаўлення не будзе!.. Божа, н-а-ш-ы!.. Прападуць!..

За замкам Акерсгус, дзе жылі Боргены, сёння было спакойна!.. Учора тут нікога не знайшлі!.. Эдуард ад сястры званіў дамоў... Ніхто не адказваў!.. Значыць з-а-б-р-а-л-і ў-с-і-х, сабакі ж!.. Ён хацеў ехаць — сястра не пусціла!.. — Іх НЕ ўратуеш — сам пападзешся!.. Эдуард пазваніў суседам Якабсонам... — З-а-б-р-а-л-і, у-с-і-х!.. НЕ прыязджайце, мы за домам глядзім! Сабаку вашага, Бурацінa, мы забралі — кормім, а кошкі — няма, мо прыб'ецца — падбярэм!.. Не вяртайцеся, зноў могуць прыйсці, не спяшайцеся!.. Хоць некалькі дзён!..

Стары Бухгольц на ферме хваляваўся!. Столькі месяцаў не было звестак з Осла!.. Нарэшце! Пісаў Эдуард, дзіўна!.. За ўвесь час заўсёды пісала Эліза!.. Там стаяла: Эліза і Курт паехалі ў Нарвік, да Аляфа і Зігрыд; Эліза прастудзілася — у шпіталі; штосьць у Курта нага адазвалася, ён тожа на абследаванні, калі адпусцяць?.. У Нарвіку, калі вернуцца — не ведаць!..

Т-а-к! — сказаў Франц Бухгольц, — якое вяртанне?!. Гэта к-а-н-е-ц!!! Няма жа ў іх ніякага ў радзіне Нарвіка, ніякага Аляфа ці Зігрыд, ні сына ніякага, ні свата з такімі імёнамі!.. Значыць — і іх вайна з-а-б-р-а-л-а!.. Госпадзі Божа! Ганса забіла міна ў Грэцыі; паўнагі Курту — у Польшчы; самога цяпер — у Нарвегіі; Грэтхен і Шарлоту — на ўласным падворку, пад хатай разарвала; Паўль — кантужаны!.. Цяпер, відаць, лёс па мяне застукае!.. Мая к-а-л-е-й-к-а!.. А што з м-а-л-ы-м будзе? Дзе галоўку пры кім прыхіліць?.. Трэба да натарыуса, у Гамбургу друг мой, Йоган Вольфанг — падкажа, трэба разумна — бо й і я ледзь лажу, учора сэрца сціснула — думаў пры малышы ноччу і прадстаўлюся — налякаю!.. У-м-р-у!!!

Хлопцы-французы прывезлі ў Гамбург ледзь жывога гаспадара, там у дохтара былі, знаёмага!.. Сёння зноў дзесьці далёка гудзелі самалёты... Бухгольц шапнуў Надзін: — У грузах ляглі Брэмергафен, Вільгельмсгафен, Ольдэнбург і Брэмен!.. Перадаю табе паклон ад Курта і цёткі Элізы!.. У іх там усё добра, спакойна (праўды НЕ сказаў!).. Ну, і радасць табе — пісьмо із Дзюсельдорфа, жывы Тамашка!..

(заканчэнне будзе)

# Амбудсмен мала разбіраецца

**Амбудсмен (заступнік грамадзянскіх правоў) доктар Адам Боднар у рамках кансультацыйных сустрэч з прадстаўнікамі розных асяроддзяў наведаў Беласток, Сямятычы, Гару Грабарку, Сейны, Сувалкі і Ломжу. Мэтай сустрэч было «дыягнаставаць самыя важныя праблемы ў галіне правоў чалавека, шукаць рашэнні, закранаць важныя пытанні, якія адносяцца да сектара НДА і адкрытага грамадства». Размаўляў аб праблемах выканання на Падляшшы грамадзянскіх правоў, у тым ліку аб дыскрымінацыйных практыках, а таксама аб становішчы грамадскіх арганізацый і сітуацыі нацыянальных і этнічных меншасцей. Выступіў ён у ролі мадэратара ў час беластоцкай дэбаты аб правах нацыянальных і этнічных меншасцей у святле 35 артыкула Канстытуцыі.**



Злева: Марцін Концкі, Кшыштаф Чыжэўскі, Мечыслава Здановіч, Адам Боднар

Адам Боднар на пасаду амбудсмена быў прызначаны ў ліпені мінулага года галасамі кааліцыі ГП-ПСЛ і СЛД. Тады супрацівіліся гэтаму дэпутаты ад ПіС. На працягу некалькіх дзён падляшскага раўнда сустрэч (27-30 студзеня) падчас прэс-канферэнцыі ў Беластоку паведаміў:

— Кожны год да амбудсмена паступае 60-70 тысяч спраў. Гэта, у асноўным, скаргі. Многа спраў тычыцца інваліднасці, не хапае падрыхтаваных чыноўнікаў з адчувальнасцю іх патрэб. Яшчэ адной праблемай з'яўляецца пытанне аб недзеяздольных асобах. Многія пытанні датычаць ЗУС, судоў і пракуратуры, ці правоў работнікаў. Спраў нацыянальных і этнічных меншасцей не так шмат.

У Сямятычах амбудсмен выявіў сярод іншага, што няма там бяздомных, таму што «мясцовая супольнасць гарантавала кожнаму дах над галавой», і звярнуў увагу на пытанне мясцовых еўрасірот. Падчас гэтай і іншых сустрэч на Падляшшы сутыкнуўся з праблемай забеспячэння ў школах урокаў этыкі і выпадкамі, што навука рэлігій, іншых чым каталіцкая, адбываецца ў вялікіх інтэрвалах ад іншых урокаў, што стварае праблемы дзецям і іх бацькам. Сказаў, што прадстаўнікі беларускай меншасці ў час адной з гутарак у Беластоку звярнулі сваю ўвагу на адсутнасць дзяржаўнай падтрымкі ў заснаванні культурных установаў, якія будуюць ідэнтычнасць меншасці. Як пасля мы высветлілі, згадаў яму пра гэта Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ.

— Здараюцца тут нацыяналістычныя інцыдэнты, але, што важна, як правіла, не ў адносінах да меншасцей, якія пражываюць тут, але, галоўным чынам, чужых культурна, напрыклад, з іншым колерам скуры, — дадаў амбудсмен.

## Гэта не кансультатыўная сустрэча

Першыя пасля свайго прызначэння выязныя спатканні Адам Боднар меў у Заходне-Паморскім ваяводстве. Чаму другое арганізавана на Падляшшы? Падчас прэс-канферэнцыі адказаў, што да гэтага пераканалі яго пасляўшыеся ў Белавежскай пушчы былы прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч і журналіст «Выбарчай газеты» Адам Вайрак.

Якраз у дзень візіту амбудсмена ў Беласток (28 студзеня) дэпутаты Сейма рашылі, што бюджэт ягонай установы (амаль 36 млн. злотых, 310 штатных рабочых месцаў, амбудсмен хацеў яшчэ восем) мае быць зніжаны на амаль 10 млн. злотых. Падчас прэс-канферэнцыі ў Беластоку ён заявіў:

— Такія наступствы прама ўплываюць на простых людзей.

Калі мы спыталіся ў яго з гэтай нагоды, ці ведае, колькі атрымліваюць на сваю дзейнасць усе арганізацыі нацыянальных і этнічных меншасцей у Польшчы з рэсурсаў МУСіА на сваю дзейнасць (у гэтым годзе крыху больш за 15, 5 млн. злотых), адказаў:

— No nie wiem.

„Ніва» звярнула ўвагу амбудсмена на патрэбу сістэмных рашэнняў, звязаных з дэпапуляцыяй беларускай меншасці на тэрыторыі Гайнаўскага павета і яе паланізацыяй, што таксама неабходна ў кантэксце думкі пра будучыню Белавежскай пушчы. Амбудсмен адказаў:

— Насельніцтва ў Польшчы ў цэлым скарачаецца. Праблема Белавежскай пушчы шырэйшая. Гэта немагчыма, каб амбудсмен заняўся справай у шырокім дыяпазоне.

Дэбаты па пытанні становішча нацыянальных і этнічных меншасцей адбыліся ў канферэнц-зале Універсітэцкага цэнтра культуры Універсітэта ў Беластоку. У якасці асноўных дакладчыкаў на панэльнай дыскусіі амбудсмен запрасіў спецыялістку па міжнародным праве і міграцыйнай палітыцы ЕС доктар Мечыславу Здановіч з УуБ, практыка ідэі і культурнага аніматара Кшыштафа Чыжэўскага, кіраўніка Цэнтра «Пагранічча — мастацтваў, культур і народаў» у Сейнах, журналіста «Выбарчай газеты» з Познані Марціна Концкага, аўтара кнігі «Biała siła, czarna pamięć» ды Уладзімежа Цімашэвіча, які ў канчатковым выніку не прыняў у ёй удзелу. Чаму быў такі склад удзельнікаў дыскусіі, а прадстаўнікоў меншасцей у гэтай дыскусіі ўстанавілі ў ролі «прасіцеляў»? Адам Боднар адказваў «Ніве» загадкава яшчэ падчас прэс-канферэнцыі:

— Гэта не ёсць кансультатыўная сустрэча.

Пра сустрэчу большасць арганізацый беларускай меншасці даведалася з інтэрнэту, часам выпадкова. Так як Славамір Іванюк, прадстаўнік Беларускага саюза ў РП у Сумеснай камісіі ўрада і нацыянальных і этнічных меншасцей.

## Меншасці — катэгорыя на абочыне

У сваім выступе, звяртаючыся да сэнсу 35 артыкула Канстытуцыі, Кшыштаф Чыжэўскі ўспомніў:

— Увесь час патрэбна абарона ад пагрозы зменшання ці гашэння мовы меншасці. Гэта важнае поле бітвы ў сучасным свеце, не толькі ў Польшчы. Такіх пагроз наогул у адносінах да нацыянальных і этнічных меншасцей вельмі шмат: ад глабалісцкіх да ксенафобскіх стаўленняў (...). Відавочнае накіраванне груп гэтых меншасцей на абарону сваіх правоў выклікала і надалей выклікае праблемы з супольнасцю. Я адчуваю гэта, працуючы на пагранічнах. Я працую, жыву ў асяроддзях, у якіх падзелы прабягаюць інакш і яны нашмат больш гнуткія і на некалькіх узроўнях, якія не адлюстраваны, напрыклад, у перапісе насельніцтва (...). Меншасці сталі лімітавай катэгорыяй, дадаткам, якому, напрыклад, у сродках масавай інфармацыі выдзелена акенца. Гэтага голасу няма ў мейнстрымным дыспуце ў нашай краіне, у тым ліку — у супольнасці.

Марцін Концкі:

— Гэты канстытуцыйны запіс я разумею як прывядзенне меншасцей у незалежнасць ад палітычных капрызаў. Гэта павінна быць гарантыяй супраць, напрыклад, магчымаму прыходу да ўлады крайніх груповак, якія квітнеюць на канфлікце і канфрантацыі. Гэта гарантыя таго, што гэтыя людзі могуць мець волю, могуць суіснаваць, а не быць толькі пераношанымі, таму што слова талерантнасць страціла каштоўнасць, яго вызначэнне сцерлася...

Адам Боднар:

— Кажуць, лепшым словам з'яўляецца прыняцце.

Марцін Концкі:

— Не, для мяне прыняцце гэта нявызначанасць, ніякасць. Больш важнымі для мяне ў гэтым кантэксце з'яўляюцца словы: суперажыванне і суіснаванне. Гэтае канстытуцыйнае палажэнне нагадвае мне таксама нармаванне традыцыі. Гэта трохі як продаж культуры па картачках: наце вам пяць кілаграмаў сваёй мовы, пятнаццаць кілаграмаў сваёй традыцыі, чатыры кілаграмы народных фэстаў, а ў наступным годзе атрымаеце новыя картачкі.

Кшыштаф Чыжэўскі спасласўся на голас выказаны ў ходзе дыскусіі «Нівай» аб неабходнасці дзяржаўнай падтрымкі для развіцця нацыянальных меншасцей праз сістэмныя рашэнні, не толькі дзеля захавання іх ідэнтычнасці:

— Меншасці з'яўляюцца гарантыяй, што існуе нейкая бесперапыннасць (...). Многія людзі, якія адракаюцца ад слова талерантнасць, не замяняюць яго словам суіснаванне, але кажуць, «закон аб гэтым вырашыць» (...). Ёсць неабходнасць абароны правоў меншасцей, неабходнасць магчымасці іх развіцця, але ёсць і неабходнасць ва ўдзеле меншасцей у рэалізацыі будаўніцтва супольнасці. Нельга чакаць, што меншасці будуць выступаць толькі за сваю справу, напрыклад, што беларус у публічных дэбатах мае выказвацца толькі па беларускіх пытаннях. Гэта таксама барацьба, каб, напрыклад, беларуская культура была не толькі асуджаная на традыцыйную культуру, а мела месца на авангард, бунт, крытычнае мысленне. Меншасці таксама павінны мець магчымасць рэалізаваць інтэграцыйныя праграмы з большасцю.

Мечыслава Здановіч:

— Для таго ў Канстытуцыі ёсць запіс аб пэўных гарантыях для меншасцей, каб тыя меншасці суіснавалі, але і каб у наступных пакаленнях не асіміляваліся аж так, што згубяць сваю індывідуальнасць. У прынцыпе юрыдычнае становішча правільнае. Праблема ў яго практычнай рэалізацыі. Ідзя заключаецца ў тым, што калі ўрад мусіць звярнуцца ў нейкай справе да меншасцей, каб выслухаў іх голас, а не адкладваў іх меркавання ў папкі, каб стварыў, напрыклад, гаранты, каб у праграмных радах публічных СМІ былі прадстаўнікі меншасцей, забяспечваў належныя меры дзеля вывучэння моў меншасцей у навучанні на ўсіх узроўнях, каб былі адэкватныя падручнікі і бесперапынна ўсведамлялася і інфармавалася, чым ёсць меншасць і якія ў яе правы, які яе ўклад у нашу агульную культуру... Надалей меншасці блытаюць з замежнікамі.

## Пасля прысуду без асалоды

У дыскусіі з удзелам таксама прадстаўнікоў беларускай меншасці падкрэслілі праблему нявырашанай спрэчкі аб дзейнасці праклятых салдат («Бурага», «Лупашкі») у дачыненні да праваслаўнай, беларускай меншасці на Падляшшы, у тым ліку неабходнасці фінансавай кампенсацыі сем'ям ахвяр атрада «Бурага» ў 1946 г., што закрануў былы дэпутат Яўген Чыквін, а тэму генеральна працягнуў, не хаваючы сваёй беларускасці, Севярын Пракапюк з партыі Разам.

Амбудсмен:

— Я не лічыў бы, што ў адпаведнасці з законам наступіць тут вырашэнне, і пасля рашэння будзе асалода. Калі чагосьці не абмяркуем, калі не дасягнем кампрамісу у ацэнцы, будзем мець спрэчку.

Амбудсмен паабяцаў прааналізаваць і знайсці рашэнне адносна кампенсацыі і абдумаць, аднак, спосабы барацьбы са знікненнем культурнай самабытнасці беларусаў, якія пражываюць на тэрыторыі Белавежскай пушчы, аб чым раней сказала яму «Ніва», а пазней Яўген Чыквін. Доктар Здановіч пры нагодзе прыпомніла рэкамендацыі незалежнага Камітэта экспертаў Рады Еўропы з апошняга яе знаходжання на Падляшшы, якія паказваюць на неабходнасць правядзення кансультацый з беларускай меншасцю ў дачыненні да рашэнняў, якія тычацца Белавежскай пушчы, «таму што яе статус можа негатыўна паўплываць на якасць іх жыцця»:

— Не знайшло гэта, аднак, адлюстравання ў рэзалюцыі Камітэта Міністраў РЕ і ў рэкамендацыях па гэтым пытанні для нашага ўрада.

Калі яшчэ на прэс-канферэнцыі «Ніва» спыталася ў амбудсмена, ці ведае ён рэкамендацыі Камітэта экспертаў, ён прызнаўся, што іх не ведае.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Крынскі каларыт

І вось, ідучы па заснежанай вуліцы з адрасамі некалькіх крынскіх старажылаў у запісной кніжцы, усведамляю сабе, што са спадарыняй Янінай не бачыліся мы з лета. Адна з найстарэйшых жыхарак Крынак вельмі любіць апавядаць і, вядома, любіць, калі яе слухаюць. Такіх магчымасцей у яе няшмат, хаця вялікая хата-палац заўсёды заселена. Неадкладна рашаюся зрабіць ёй мілы сюрпрыз.

Вітае мяне жанчына гадоў за шэсцьдзясят. Бачу яе ўпершыню. Апякунка? Ветліва запрашае ўвайсці ў сярэдзіну, прапануе цёплыя шлёпанцы.

— А спадарыня Яніна яшчэ жыве? — пытаю з непакоем.

— Вось толькі што з бальніцы вярнулася. Яшчэ слабая. Прысядзьце, калі ласка, зараз яе падрыхтую.

Спосаб паводзін і слоўны запас жанчыны здраджваюць высокі ўзровень адукацыі і вынесенага з хаты выхавання.

Прыехала сюды з другога канца Польшчы, каб ратаваць сваю маці, а можа правесці супольна апошнія яе дні. Сапраўды Яніна за апошнія паўгода пастарэла быццам на некалькі дзясяткаў гадоў. Праўду кажучы, застаўся толькі цень чалавека, які зусім здаўся на апеку і кіраўніцтва любімай дачкі.

— Калі б не дачка, мяне ўжо на гэтым свеце не было б, — ціха прызнаецца Яніна. І гэта адно з нешматлікіх яе выказванняў, якое прагучала ў час сустрэчы. У шпіталі наведалі яе ўнукі і праўнукі, але зусім гэтага не помніць, быццам нікога не было. Мяне пазнае і шчыра ўсміхаецца, прадстаўляе зацікаўленай дачцэ.

І тут пачынаюцца клопаты. Беларускі тыднёвік, адукацыйныя праекты з моладдзю ў карысць пашаны правоў чалавека выклікаюць у дачцэ Яніны сур'ёзную занепакоенасць. Расказвае пра адукатараў, якія находзяць польскія школы за дазволам непапраўных дырэктараў тых жа школ і мяшаюць у дзіцячых галовах, тлумачыўшы ім што гомасексуалізм гэта нармальна.

Адчуваю, што жанчына хоча кантраляваць не толькі сваю пажылую маму, але і мяне, а нават, здаецца, і цэлую краіну. Апраўдваюся.

— Я, папрошу, раблю ўсё, каб нашы дзеткі не кідаліся з кіпцюрамі на дзяцей афрыканскіх уцекачоў, а яшчэ вучу іх, што жыд і беларус гэта таксама людзі. У справах сексу не маю вялікай арыентацыі, таму гэтую праблему пакідаю спецыялістам.

Пачынаю адчуваць сябе зусім некамфортна, быццам чужак на тэрыторыі людзей, якія бачаць свет дагары нагамі. Вось бяседуем разам, але я знаходжуся ў Крынках, а яны ў Новай Зеландыі, альбо я ў гэтай Новай Зеландыі, а яны ў Крынках. Абавязкова нехта з нас голы сядзіць на дрэве і пад'ядае, нічым свінскае сала, людскі кумпяк. Пакідаць іх, а асабліва Яніну, здаецца, зарана. Праўда, надта яна слабая, каб распавядаць мне цяпер пра Другую сусветную вайну, а і ў мяне занятказ, як заўсёды, шмат. Усё ж такі рашаю бескарысна аддаць жанчыне некалькі хвілін свайго цэннага часу.

— Мы не крыўдзім іншых нацый і ніколі іх не крыўдзілі. Але заўсёды будзем помніць усё кепскае, якое нам нехта зрабіў, — згодна, нічым блізняты, сцвярджаюць жанчыны. — Выбачаем, але помнім. А такія жыды, ім нават не падабаецца, калі іх звацц жыдамі. Яны чамусьці зусім беспадстаўна прымушаюць называць сябе ізраільцянамі.

— Упершыню чую, — адказваю. — Калі ў нашу школу прыехала старшыня жыдоўскага аб'яднання, яна сказала дзецям: я — жыдоўка, можаце пахваліцца, што вы бачылі сапраўдную жыдоўку. А калі ідзе пра нашу дабрыню, вось у той жа школе апякунка вучнёўскага валантарыята заплакала ўпарадкаванне толькі каталіцкіх і праваслаўных могілак. Калі я запрапанавала схадзіць і на жыдоўскія, рашуча адмовілася і растлумачыла, што гэта супярэчыць светапогляду бацькоў крынскіх дзяцей.

— Не можа быць, — быццам здзіўляецца жанчына. — Я працавала ў Беластоку разам з жыдам, у адным бюро сядзелі. Ён выехаў у 1968 годзе, але ніхто яму не дакучаў.

— Тады чаму ён выехаў? Вы сабе не ўяўляеце колькі нетактоўнасцей я ўчыніла, будучы на эміграцыі ў еўрапейскай краіне ў адносінах да яўрэяў, неграў і згаданых вамі гомасексуалістаў. Вяла я сябе як сапраўдны дзікун. Зусім несвядома, вось такая ўся, узорная польская дзяўчынка, а яны вочы вытрэшчвалі, слухаючы мяне. І толькі тады я пачала арыентавацца, што нешта са мной не зусім у парадку.

— Але ж чаму мы маем падпарадкавацца еўрапейскім стандартам, — упарта трымае сваю старану жанчына. — Няхай яны нам падпарадкуюцца. Я не згодна каб нейкія падазроныя адукатары вучылі маіх унукаў адабраць гомасексуалістаў. Увогуле гомасексуалістаў нельга дапускаць да дзяцей, пускаць за парог школы.

— А настаўнікаў ці ксяндзоў, якія на сваіх уроках цягаюць гімназістак за бюстгальтар можна? А чым пашкодзіць дзецям гомасексуаліст, які задавальняе свае сексуальныя патрэбы выключна ў прыватнасці, у сваёй хаце? У мяне сяброўка, якая

працяг ☞ 11




# http://harodnia.com

У кожным горадзе заўсёды знойдуцца людзі, якім вельмі залежыць на захаванні і вывучэнні яго мінулага. Намаганнямі такіх руплівцаў удаецца адкрыць перад сучаснікамі, а таксама нашчадкамі ўсю прыгажосць гісторыі такіх мясцін, паказаць іх у незвычайным для паспалітых людзей выглядзе.

Беларускія гарады таксама не застаюцца па-за ўвагай гісторыкаў-аматараў і краязнаўцаў, якім зараз, дзякуючы інтэрнэту, лёгка распаўсюдзіць свае веды для тых, каму гэта будзе цікава. Адным з прыкладаў такога распаўсюду можна прывесці сайт Harodnia.com, што месціцца па аднайменным адрасе і распавядае пра бліжэйшы да Беластока буйны беларускі горад Гродна, альбо як яго называюць стваральнікі сайта — Гародню.

Дадзены краязнаўча-гістарычны сайт Гародні мае даволі простае і на першы погляд не вельмі прывабнае выяўленне, хоць і падае інфармацыю ажно на чатырох мовах — беларускай (да якой, відаць, уладальнікі аднесці і рускую), польскай, англійскай і нямецкай. Выкананы ён з большага ў бела-шэрай колеравай гаме і не надта прыцягвае да сябе ўвагу наведвальніка. Уверсе цэлага выяўлення знаходзяцца выйсці на раздзелы сайта, якія на старонках больш дэталёва раскрываюць агульны змест. У той жа час пасярэдзіне месціцца выйсці на артыкулы, якія з'явіліся нядаўна. Згодна датам, пад якімі пазначаны тыя артыкулы, бачна, што сайт, да гонару яго ўладальнікаў, абнаўляецца даволі часта.

Harodnia.com мае звычайную трохчасткавую будову. Акрамя анонсаў артыкулаў, на галоўнай старонцы можна пабачыць тое, што найбольш зацікавіла наведвальнікаў. Згодна пададзенай там інфармацыі, самым чытаным з'яўляецца артыкул пра Гародню на малюнках вялікага мастака Напалеона Орды. І гэта пры тым, што ён месціцца на шасці старонках і быў апублікаваны ў сакавіку 2008 года.

Паколькі сайт змяшчае не толькі гістарычную, але і краязнаўчую інфармацыю, то, дзякуючы яму мы можам пазнаёміцца таксама з сённяшняй Гародняй. Для гэтага існуе раздзел „Гародня сёння". Там узнімаюцца тэмы пра тое, як захаваць гарадзенскую спадчыну, як палепшыць гарадскую транспартную сістэму, таксама можна даведацца пра грамадскую актыўнасць у горадзе над Нёманам. Разам з тым тут не абышлося без недахопаў, бо на старонцы „Падзеі", апошняе паведамленне датуецца жніўнем 2014 года. Падаецца, што ўладальнікі сайта павінны альбо неяк актывізаваць працу па своечасовым абнаўленні данай старонкі, альбо зусім скасаваць яе.

Што ж тычыцца „гістарычнай" часткі сайта, то яна месціцца ў раздзеле „Гародня ўчора". Гісторыя горада сістэматызавана па пяці перыядах — „Старажытны Гарадзен", „Вялікае княства і Рэч Паспалітая", „Расійская імперыя", „Гродна 1920-1944" і „Пасляваенны Гродна". Кожны з раздзелаў змяшчае немалую колькасць артыкулаў, якія будзе вельмі карысным прачытаць тым, хто цікавіцца гісторыяй гэтага горада.

Вартым увагі падаецца і раздзел „У пошуках Гародні", дзе ўладальнікі сайта змясцілі артыкулы, датычныя вобразу горада, ідэй для яго развіцця і інфармацыю пра заможны досвед, які можна было б выкарыстаць для захавання гарадзенскай адметнасці. Старонка „Гарадзенскія гісторыі", якая месціцца ў гэтым раздзеле, змяшчае аповеды людзей пра разнастайныя падзеі, што мелі месца ў Гародні ў розныя гады і стагоддзі.

❖ Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

### Першы прэзідэнт нацыянальнай Акадэміі навук



# 85 гадоў з дня гібелі Усевалада Ігнатоўскага

Беларускі гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, першы прэзідэнт Акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі нарадзіўся 19 красавіка 1881 г. у вёсцы Такары (Камянецкі раён). Паходзіў з сям'і настаўніка. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, потым — у Магілёўскай семінарыі. У 1902 г. паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, аднак за ўдзел у антыўрадавых дэманстрацыях і распаўсюд улётак двойчы высылаўся: спачатку дадому, потым — у Аланецкую (Карэльскую) губерню.

У 1908 г., калі аслабла хваля рэвалюцыйнага ўздыму, здабыўшы фальшывую даведку пра сваю «палітычную надзейнасць», Усевалад Ігнатоўскі паступіў у Юр'еўскі (Тартускі) універсітэт. У 1911 г. скончыў яго. Далей працаваў у Вільні ў адной з прыватных гімназій. У 1914-1921 гг. працаваў выкладчыкам, старшынёй педагагічнай рады Менскага настаўніцкага інстытута. Па сутнасці ён быў рэктарам гэтай установы, якая ў час вайны да лета 1918 г. працавала ў эвакуацыі ў горадзе Яраслаўлі. Яшчэ раней — у 1901 г. — Ігнатоўскі ўступіў у партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў і заставаўся ў ёй да кастрычніка 1917 г.

У жніўні 1920 г., у першым сацыялістычным урадзе Беларусі, Усевалада Ігнатоўскага нечакана прызначылі народным камісарам земляробства. Ён старанна ўзяўся за працу. Але неўзабаве Аляксандр Чарвякоў, Язэп Адамовіч і іншыя кіраўнікі рэспублікі, якія ўжо добра ведалі магчымасці і схільнасці Ігнатоўскага, зразумелі дапушчаную недарэчнасць. У снежні таго ж 1920 г. ён становіцца народным камісарам асветы рэспублікі, той сферы, якую ён ведаў і дзе найбольш быў патрэбны.

11 ліпеня 1921 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Шэрагу выдатных навукоўцаў, якія паспелі зарэкамендаваць сябе ў розных галінах дзейнасці маладой рэспублікі саветаў, было нададзена пачэснае званне прафесара. Сярод іх быў і Усевалад Ігнатоўскі. Пры яго актыўным удзеле ў лютым 1922 г. у Менску адбылася яшчэ адна надзвычай важная падзея: адкрыўся Інстытут беларускай культуры. Спачатку яго ўзначальваў Сцяпан Некрашэвіч, а з 1926 г. старшынёй стаў Усевалад Ігнатоўскі. І адразу ж па яго ініцыятыве структура інстытута была зменена: выпрацоўваліся падыходы да пераўтварэння яго ў Акадэмію навук Беларусі. Афіцыйна стварэнне Беларускай акадэміі навук было абвешчана ў 10-ю гадавіну ўтварэння Беларускай ССР — у студзені 1929 г. Першым прэзідэнтам галоўнай навуковай установы стаў якраз Ігнатоўскі. На пасадзе прэзідэнта БАН ён працаваў менш двух гадоў. Ужо ў канцы 1930 г. яго вызвалілі з пасады, а ў студзені 1931 г. — выключылі з камуністычнай партыі Беларусі.

Органы АДПУ сфабрыкавалі «контррэвалюцыйную нацыянал-дэмакратычную арганізацыю» пад назвай «Саюз вызвалення Беларусі». Па ёй, як «ворагі народа», і праходзілі народныя камісары асветы і земляробства Антон Баліцкі і Зміцер Прышчэпаў, прэзідэнт БАН Усевалад Ігнатоўскі, іншыя дзеячы нацыянальнага Адраджэння.

4 лютага 1931 г., не вытрымаўшы здзекаў і зняваг, Ігнатоўскі скончыў жыццё самагубствам: застрэліўся ў хатнім кабінеце. Пакінуў пасля сябе звыш 30 манаграфій, кніг, брашур і артыкулаў. Сярод іх асаблівае месца займае «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі».

Пахаваны ў Менску на Вайсковых могілках. У 2007 г. у сталічным мікрараёне Дамброўка з'явілася вуліца ў гонар Ігнатоўскага.

❖ Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

працавала ў дзявочым папраўчым доме. Вельмі любіла гэтую надзвычай цяжкую працу. Але там жорстка праследавалі гомасексуалізм і яна, як бісексуал, проста панічна баялася сваіх калег па працы. Нервова не вытрымала і адышла. А дзяўчаты беззваротна страцілі адданага ім педагога. Мне асабіста гомасексуалізм не навіна. На Захадзе прыйшлося працаваць у псіхатэрапеўтычным шпіталі, дзе не толькі пацыенты, але і частка персаналу мела такую арыентацыю. Нікому гэта ні ў чым не перашкаджала, ніхто нікога ў пасцель ісці не прымушаў.

— Мы — каталічкі, а каталікі гомасексуалістаў не прызнаюць!

— Не праймайцеся, дарагія спадарыні, усё будзе па-вашаму. Не пасуем да Еўропы. Такіх, як мы, ніхто там не будзе трымаць. Мабыць, бліжэй нам да азіяцкіх краін. Там нам шукаць партнёраў. Здаецца, мне ўжо пара, не хачу вам псаваць і так сапсаванага настрою.

— Так, вам ужо пара, — чую ў адказ.

Вядома, не ўсе каталікі аднолькавыя. Вось гэтыя жанчыны належаць да пэўнай групы, званай, як мне здаецца, махеравай. Вось можна меркаваць, што гэтая група не прызнае інстытута папы рымскага. Думаю сабе, што кожны мае права на існаванне, нават махеры. Усё-такі гэта нейкі каларыт мясцовай прасторы. Ну што ж, прапалі мае ваенныя ўспаміны. Больш у гэтую хату мне не ўвайсці. Шкада, колькі магла б я даведацца, перш за ўсё пра крынскіх жыдоў. Дачка напэўна забароніць Яніне са мною гаварыць, гэта ясна. З другога боку я ўсё-такі спазнілася. Над пахудзелай, бледнай бабулькай стаіць ужо смерць з касою. На развітанне з чыстага сэрца жадаю абедзвюм жанчынам як найбольш здароўечка.

Дачка адводзіць мяне ў калідор. Нервова зацiснуўшы зубы, глядзіць у акно. Не хоча мяне бачыць і ведаць, а я, ухапіўшыся за клямку, дадаю на развітанне:

— Але ў вашага цяперашняга папу Францішка я поўнасцю закахана.

**Іаанна ЧАБАН**

# Новы дух

Ну, як не кажы, а ў «Ніву» ўступіў як бы новы дух і то пад канец года. Ад некалькіх тыдняў паявіліся ў тыднёвіку змястоўныя артыкулы, хоць бы цыкл пра бежанства, ці інтэрвенцыйныя заяўкі галоўнага рэдактара тыднёвіка і заадно Радыё Рацыя, шэфа БГТ і іншых дзеячаў з нагоды атак нейкага Роберта В. Выраcткевіча на сайце «Prawy.pl» на журналістку Радыё Рацыя за рэпартаж «Я іх бачу» (глядзі «Ніва» № 48, 49, 52 і «Часопіс» № 12/15).

Не ведаю, ці я даведаўся б пра слаўны ўжо рэпартаж журналісткі Радыё Рацыя Валянціны Лаеўскай, калі б не прайшла яна ў фінал конкурсу, арганізаванага Інстытутам нацыянальнай памяці, і калі б не адазваліся «аўтарытэты» навукі і публіцысты супроць той намінацыі. Праціраў я вочы, не давяраючы такой змястоўнай «Ніве». Аж глянуў на перадапошнюю старонку (на выхадныя даныя): можа галоўны змяніўся, або прыйшлі новыя тузы журналістыкі ці публіцыстыкі? А можа ідзе «добра змяна», згодна з агульнадзяржаўнай перабудовай грамадскага жыцця? Не, усё як было. Выдавец не змяніўся, галоўны рэдактар той сам, намеснік галоўнага рэдактара як заўсёды, склад публіцыстаў таксама заўсёдны. Нібы ўсё ў парадку. Хоць не, не заўважыў я за многа журналістаў у складзе рэдакцыі, але вядома, публіцысты могуць быць некалі і журналістамі, або наадварот.

От і загвоздка: ці далей рабіць падпіску на «Ніву» на наступны год, ці не, бо можа, напрыклад, артыкул Яўгена Міpановіча «Залешаны, Зані, Вулька» («Ніва» № 52) з'яўляецца толькі ясным, але адзінокім інтэлектуальным праменьчыкам вясны, які з цікавасцю я прачытаў, і то перад чытаннем сваёй «Палітыкі».

Яўген Міpановіч сумна канстатуе: «У 2016 г. міне 70 гадоў ад жудаснай пацыфікацыі нацыяналістычным падполлем беларускіх вёсак на Беласточчыне. Адзначыць гэты сумны юбілей не стануць ні польскія палітыкі, ні публіцысты, ні вучоныя. Ніхто з беларускіх дзеячаў таксама не ведае як належна ўшанаваць памяць ахвяр пасляваеннага тэрору». Так змяніўся час, «што найбольш адважныя сталі гаварыць шэптам». Затым пэўна далей трэба будзе гаварыць шэптам, бо як вядома «ласка паньска на пстрым коню ездзі», і як было б штось не па-іхняму, то ўлада прытармазіць датацыі, дзякуючы якім існуюць не толькі «Ніва» ці «Часопіс», але і іншыя беларускія арганізацыі ды ладзяцца розныя мерапрыемствы. Не ад сёння вядома, што хто плаціць, той і вымагае. Няма незалежных фундацый, якія маглі б прафінансаваць існаванне беларускай культуры, ці хоць бы «належна ўшанаваць памяць ахвяр пасляваеннага тэрору». Усе мы паверылі, што калі знаходзімся ў Еўрапейскім Саюзе, то ліберальная дэмакратыя няўхільная.

А так пры нагодзе, з цікавасцю чытаў я інтэрв'ю А. Вярбіцкага з былым бургамістрам Гайнаўкі Анатолем Ахрыцюком да слоў, калі публіцыст са спачуваннем, пытае свайго героя: «У 1998 годзе становішся граданачальнікам Гайнаўкі; як успамінаеш гэты час? Гэта быў для горада цяжкі час, калі карыстанне пушчанскай сыравінай абмяжоўвалася, калі Гайнаўка стала траціць крыніцы сваёй сілы». А. Ахрыцюк: «Сапраўды, калі я стаў на пасаду, тады быў складаны час з Белавежскай пушчай». І далей А. Ахрыцюк на пытанне публіцыста: «Гэта быў, як мне здаецца, найцяжэйшы перыяд для Гайнаўкі?» адказвае быццам наша прэм'ер-міністр: «Але тады нам удалося вытрымаць і тыя **псеўдаэколагі** (выл. — М. К.), што прычапіліся да Пушчы змякчэлі». Але ёсць надзея на лепшае для Гайнаўкі, бо да ўлады вярнуўся Ян Шышка, паводле А. Ахрыцюка, «ляснік і любіцель прыроды», і Гайнаўка зноў атрымае «крыніцы сваёй сілы». І так гутараць любіцелі прыроды пра Пушчу, бо можна будзе цяпер сячы яе да апошняга дрэва. А што знікне апошнія натуральная пушча ў Еўропе, то выдумка **псеўдаэколагаў**. Заклапочаных лёсам Пушчы і Гайнаўкі адсылаю да артыкула Эвы Звяжынскай «Ekologia pod naporem ideologii. Puszczański poligon" («Часопіс» № 1/16), можа штось з гэтага зразумеюць.

А так, то ўсё ў парадку. Жадаю Рэдакцыі і чытачам «Нівы» перш за ўсё моцнага здароўя, а поспех сам з'явіцца.

**Міхась КУПТЭЛЬ**

# 07.02 — 13.02

**(22.03. — 20.04.)** Краса, чар, вострая інтуіцыя. Усё хочаш ведаць наперад, але Уран можа ўсё перавярнуць дагары нагамі. Што тады? Прыняць кожную раптоўную змену і навучыцца карыстацца такой дынамікай здарэнняў. Можа прытрапіцца малая, але дакучлівая страта. Больш адпачывай, не перанатужвайся фізічна.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш баявіты, але будзеш таксама прыцягваць агрэсіўных асоб. З 8.02. нават любоўныя словы могуць прагучаць як папрокі. Твае наватарскія задумы спадабаюцца кіраўніцтву. Твае жыццярадаснасць і спакой цяпер вельмі прыдадуцца (нейкая злосная асоба будзе табе дапякаць). Можаш спраўна знайсці новую працу. Грошы як рукой падаць, пільнуй сваіх спраў.

**(22.05. — 22.06.)** Увесь месяц будзеш мець выпрабаванні на тваю трываласць перад ударамі лёсу. Здасі гэты экзамен! Лёгка не будзе, бо за што возьмешся, усё будзе ўскладняцца, але калі перастануць дзьмуць ветры табе ў вочы, паляціш высока. Вельмі добра пачнуць складвацца прафесійныя справы, хтось пачне з табою карыснае супрацоўніцтва. У канцы тыдня прарвецца блакада тваёй энергіі. Набярэ бляску таксама твая краса. Сяброўка ці сваячка можа трапіць у бальніцу, фінал будзе добры.

**(23.06. — 23.07.)** Вельмі цікавы ўвесь месяц, з бурай пачуццяў, пасля розных сумненняў і раптоўных рашэнняў, урэшце нават містычных перажыванняў. Мусіш выйсці са сваёй бяспечнай шкарлупкі, вылузацца са сваіх хатніх пледаў. Ажыўленне ў сардэчных справах, многа чуласці і моцныя эмоцыі. 12.02. адораны будзеш вялікім аптымізмам і творчым запалам. Не запавольвай сваіх спраў.

**(24.07. — 23.08.)** Зоркі адгародзяць цябе ад кепскіх уплываў і памогуць з'яднацца з кімсьці блізкім. 13.02. памогуць табе пазбегнуць аварыі і хутка адрэагаваць на неспрыяльныя здарэнні. Тое, што цяпер будзе адбывацца, можа значна заважыць на тваёй будучыні, адкрыць табе шлях да поспехаў, застацца прыгодным успамінам або праклёнам. Пільнуйся! Саперніцтва, нават небяспечнае. У асляпляльным сонцы можаш сягнуць па поспех у бізнесе.

**(24.08. — 23.09.)** Твае ў меру ўпарадкаванае жыццё пачне крыху ўзбурацца. Гэта можа прымусіць цябе да важных рашэнняў. Працягнуцца ў часе важныя для цябе вырашэнні — удзел у спадчыне, падарунку, кампенсацыі. Няма рады, будзь цярплівым! Супакоішся. Твае грошы не прападуць. Дарвецца да цябе каханне, ад якога ўцякаеш. Сатурн мае для цябе доўгія планы з поспехам на працы. Пільнуйся, каб хто хітра не ўкраў твайго праекта.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш марыць, але з надзеяй і адвагай. Пачнеш інакш глядзець у будучыню. 6.02. схочаш правесці важную размову з былой, але надалей каханай асобай. Ад 13.02. будзь гатовы да ажыццяўлення сваіх інвестыцыйных планаў. Пачні ашчаджаць. Зафундуй сабе цудоўную метамарфозу ў цырульніка і касметолага.

**(24.10. — 22.11.)** Столькі энергіі, што можаш заваёўваць увесь свет! Добра выкарыстай сваю сілу. Увесь месяц будуць здзяйсняцца твае мары. Маюць шанцы на рэалізацыю працяглыя далёкія планы. Можаш змяніць зацікаўленне, працу, а нават прафесію. Можаш знайсці працу, аб якой марыш. Асаблівыя ўдачы і папулярнасць 6-8.02. 7-8.02. энергія будзе цябе аж распіраць. Трымай нервы на паваду! Аж да 20.02. сонца будзе свяціць табе ў вочы, але перашкоды будуць мабілізаваць цябе. Можаш выйграць нейкі конкурс, саперніцтва, будзеш хадзіць у хвале. Твае праекты будуць проста геніяльныя!

**(23.11. — 22.12.)** Будзеш у эйфарыі! Так можа пачацца вялікае каханне! У лютым можаш сам ускладніць сваё файнае, спакойнае жыццё. Не шукай дзіры ў цэлым. Не перабольшвай хібаў і дробных праблем, якіх няма. На працы пакуль не чакай павышэнняў і прэмій. Грошы любяць цябе і ўвесь месяц будуць цябе трымацца. Варушыся. Вельмі дбай аб свой жоўцевы пухір і пячонку.

**(23.12. — 20.01.)** Вялізны імпэт на працы. Чакае цябе многа здарэнняў і мілых сюрпрызаў, сярод якіх можа быць замежная паездка або запрашэнне з-за Вялікай вады. Не праваронь важных тэрмінаў, усё добра паафармляеш. Будуць падаграваца твае амбіцыі, будзе сіла на іх рэалізацыю. Важная будзе вестка пра дзіця!

**(21.01. — 19.02.)** Зоркі спрыяюць, але ад цябе залежыць, ці твой кус торту будзе вялікі. Пасля 14.02. жыццё набярэ тэмпу і з імпэтам будзеш дабівацца поспехаў. Не навязвай сваёй думкі. Звярні ўвагу на сваё здароўе, ідзі да лекара, калі нават табе быццам бы «паправілася» само па сабе.

**(20.02. — 21.03.)** Спачатку ў горшым настроі, расстроены і рассеяны; зважай на тое, што падпісваеш! Не паблукайся! Не выберы дарогі, якая заўсёды цябе ў нікуды. Выбары нялёгкія, затое заквітнее твой талент, не толькі мастацкі ці кулінарны. Засяродзься на тым, што адбываецца тут і сёння. Зменлівае шчасце, але ўсё ж, важная сям'я.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Белавежскі царскі палац у Нараўчанскай галерэі



■ Макет палаца ў Нараўчанскай галерэі

Ад 15 студзеня гэтага года ў Галерэі мастацкіх карцін і скульптуры імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (Гайнаўскі павет) можна глядзець вялікі макет колішняга прыгожага белавежскага царскага палаца з вежай і вялікім гадзіннікам. Яго выканаўцам з'яўляецца Раман Маліноўскі з Нараўкі. „Будаваў" ён яго два гады і закончыў 15 кастрычніка мінулага года.

Цяпер захапляюца ім кожны дзень наведвальнікі прыгожай вясковай галерэі. Варта туды зайсці. Такая нагода ўбачыць цікавае рэдка бывае.

А зараз спадар Маліноўскі робіць макет парафіяльнай царквы ў Нараўцы. Праца ідзе спорна. Жадаем яму поспехаў.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка

**Адгаданка**

1. зморанасць ад цяжкай працы, 2. перапынак у час цяжкай працы для аднаўлення сіл, 3. жывёліна сямейства куніцавых з каштоўным футрам і... вакальным калектывам, 4. у пары з полымем, 5. зброя рыцара, 6. крайняя дошка ад распілоўкі бервяна, 7. жэрдка ў куратніку на якую нанач сядаюць куры, 8. кароткі адрэзак часу, мінута, 9. лінія палёту снарада або ракеты.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай.

У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 3 нумара**

Аер, борць, газа, дзверы, мача, папараць.

Рашэнне: **Пець добра разам, а гаварыць па чарзе**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Віктар Швед
## заўсёды ў дарозе




Скажыце, калі ласка, каго я сёння здзіўлю, калі напішу пра Віктара Шведа і яго творчасць? Ды нікога. Бо пра нашага старэйшага літаратара, публіцыста, журналіста і грамадскага дзеяча напісана сотні артыкулаў. Ды і сам ён за сваё доўгае жыццё апублікаваў іх шмат. Самых розных: гэта і рэцэнзіі на кнігі, і жыццёвыя, літаратурныя развагі, і творчыя партрэты і вядома ж... успаміны пра людзей. Таму часта, сустракаючыся са спадаром Віктарам, казаў яму, што тэрмінова неабходна выдаваць кнігу ўспамінаў пра сваё жыццё і пра тых людзей, якіх надарылася за жыццё бачыць, сустракаць, ведаць і сябраваць. І вось — першая ластаўка!.. Чаму першая? Ды таму, што спадзяюся — з'явіцца і другая кніга ўспамінаў, і трэцяя, і вядома ж кніга лістоў. Абавязкова Віктар Швед павінен выдаць кнігу ліставанняў. У яго ж у хатнім архіве павінны захоўвацца пісьмы ад многіх знакамітых людзей Бацькаўшчыны, з якімі ён дзесяцігоддзямі ліставаўся. Усе гэтыя лісты трэба выдаваць асобным выданнем, з прадмоваю і з каментарыем. Гэта таксама наша гісторыя, наша эпісталярная спадчына, а тым больш сёння, калі мы рэдка пішам адзін аднаму лісты, а гутарым мімаходзь толькі праз інтэрнет.

У прадмове да першага тома ўспамінаў Віктара Шведа Віталь Луба назваў кнігу „цаглінкай у гісторыю беларушчыны ў Польшчы". Гэты том успамінаў гучыць так: „З Мора ў горад". Ён выйшаў з друку, дзякуючы Праграмнай радзе тыднёвіка „Ніва". Гэта кніга — ордэн Віктару Шведу ад „Нівы" і ад усіх беларусаў Польшчы. Ён, можа нават і большы, чым ордэн Скарыны, атрыманы ад Лукашэнкі. Хаця не так важна, хто ўганараваў Віктара Шведа ордэнам Скарыны — галоўнае, што ён заслугоўвае і ордэна Скарыны, і ордэна „Нівы" — кнігу жыцця, цудоўную кнігу ўспамінаў. Ды ад „Нівы" Віктар Швед заслугоўвае шмат. Хаця і сам аўтар, магчыма, абавязаны „Ніве" яшчэ больш за тое, што „калі б не „Ніва", я відавочна ў далейшым нічога б не пісаў" (с. 293). „Ніва" і Віктар Швед — гэта тэма навуковай канферэнцыі, якую маглі б правесці літаратуразнаўцы Польшчы, Беларусі і іншых дзяржаў. Бо гэта — вялікая тэма. Тым больш, што сам аўтар піша: „Калі на маё дзевяностагоддзе Ганна Кандрацюк-Свярубская зрабіла падлік, аказалася, што я на старонках „Нівы" апублікаваў тры тысячы з лішнім вершаў" (с. 297). Гэта толькі вершаў: прысвячэнняў, патрыятычных строфаў, лірычных радкоў і стосы дзіцячых. А колькі „Ніва" апублікавала празаічных матэрыялаў Віктара Шведа, сярод якіх сотні ўспамінаў пра сяброў, літаратараў, грамадскіх актывістаў, палітыкаў. Віктар Швед стаў штатным журналістам „Нівы" ажно 1 студзеня 1957 года. Уяўляеце, амаль усе сённяшнія супрацоўнікі „Нівы" яшчэ не нарадзіліся, а спадар Віктар Швед ужо пісаў пра беларускія справы ў Рэчы Паспалітай. Ён пазнаёміўся і завочна, і асабіста ў XX стагоддзі з Уладзіславай Луцэвіч — жонкай Янкі Купалы, якую ўсе любілі і шчыра называлі цёця Уладзя.

Віктар Швед быў знаёмы з Канстанцыяй Буйло, якой першы зборнік вершаў „Курганная кветка" (1914) рэдагаваў Янка Купала, а афармляў Язэп Драздовіч. Аўтарка радкоў „Люблю наш край старонку гэту..." у 1984 годзе падпісала Віктару Шведу свой зборнік вершаў „Май" (Мінск 1965).

Віктар Швед быў знаёмы з мастаком Пятром Сергіевічам (1900-1984) — аўтарам знакамітых карцін „Усяслаў Полацкі" (1932), „Кастусь Каліноўскі аглядае паўстанцаў" (1955), „Скарына ў друкарні" (1957), „Скарына ў рабочым кабінеце" (1960), „А хто там ідзе?" (1947), „Араты" (1938) і іншых. Віктар Швед сябраваў з Марыяй Корсак, Міхасём Забэйдам-Суміцкім, Станіславам Казурам, Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам і многімі-многімі іншымі вялікімі людзьмі Бацькаўшчыны.

Вельмі цікава чытаюцца першыя чатыры часткі кнігі „У адроджанай краіне", „У другую сусветную", „Час трывогі і надзеі", „Мая сям'я". Лёс аднавяскоўцаў і сям'і Віктара Шведа — гэта лёсы ўсіх беларусаў, асабліва Заходняй Беларусі. І сёння старэйшыя людзі прыгадваюць сваё маленства так, як праўдзіва напісаў аўтар кнігі „З Мора ў горад". Праўдзівасці ўспамінам надаюць паэтычныя радкі і здымкі ў кнізе, якімі файна аздоблена выданне. Гэта аздабленне вершамі і здымкамі, як архіўнымі дакументамі, значна дапаўняе кнігу, якую хочацца чытаць ці проста гартаць.

А цяпер давайце зноў вернемся да ўспамінаў пра вядомых людзей. Асобамі незвычайнай індывідуальнасці назваў Віктар Швед Васіля Белаказовіча, Пятра Ластаўку, Кастуся Майсеню, Мар'яна Пецюкевіча, Янку Жамойціна, Янку Гуцьку і Міколу Гайдука. З захапленнем прачытаў пра Пятра Ластаўку і яго прамыслова-гаспадарчую фірму „Бэтэска". Прыгадаў Віктар Швед нават дзіцячыя цацкі — каляровыя мышкі Мікі Маўс, качары Дональды і гномаў вытворчасці „Бэтэскі" (с. 201). Пятро Ластаўка, аказваецца, быў не толькі беларускім грамадскім актывістам у Польшчы, але і добрым арганізатарам, кіраўніком. Яго „Бэтэска" ў 1962 годзе дасягнула каля 6 мільёнаў злотых прыбытку. „Атрыманы даход дазволіў Пятру Ластаўку даць абяцанне, што зможа для БГКТ уносіць па два, а нават па тры мільёны злотых кожны наступны год. Дзяржаўныя датацыі стануць тады непатрэбнымі. Усім вядома, што МУС на гэта не згодзіцца..." (с. 203).

Пішучы і ўспамінаючы пра яшчэ аднаго беларускага дзеяча ў Польшчы Кастуся Майсеню, Віктар Швед ахарактарызаваў яго найлепшымі эпітэтамі і параўнаннямі: „Кастусь Майсеня ачараваў мяне сваёй незвычайнай індывідуальнасцю. Уражваюць такія яго якасці, як працавітасць, праўдзівасць, непакорнасць, — праца для іншых, а не для сябе. Такія людзі нават у капіталізме ніколі не ўзбагацяцца матэрыяльна. Бескампрамісны змагар за беларускасць, за родную мову, за незалежнасць сваёй айчыны Беларусі..." (с. 206). І паэтычных радкоў у кнізе шмат, прысвечаных Кастусю Майсеню. Ну, вось адна страфа:

...Нялюдскім варварскім загадам,
Як крывадушнік-фарысей,
*Хутка ліквідавалі ўлады*
Этнаграфічны наш музей...

Прачытаў гэтыя радкі і так захацелася памяняць месцамі словы:

*Ліквідавалі хутка ўлады*
Этнаграфічны наш музей...

І рытм верша, здаецца, стаў на месца...

Але гэта я сказаў між іншым. А цяпер давайце далей пагартаем кнігу „З Мора ў горад". Успамінаючы Мар'яна Пецюкевіча, аўтар кнігі прыгадвае, як сустракаўся з Мар'янам Пецюкевічам у Торуні і той распавядаў, як у ГУЛАГу сярод 500 зэкаў ён сустрэў Янку Багдановіча, з якім выдавалі ў Вільні часопіс „Шлях моладзі" (с. 211), як Мар'ян Пецюкевіч у адным з калгасаў далёкага Ужурскага раёна Расіі працаваў пчаляром і як пчолы проста ратавалі чалавека ад ГУЛАГу, бо Мар'ян „выпускаў працавітых пчолак з вулляў, размаўляў з імі, а яны працавалі ад усходу сонца да позняга вечара" (с. 210).



Ёсць у кнізе і шчымлівы раздзел „Сустрэчы з землякамі". Спынюся на адной сустрэчы, на адной асобе, якую сёння амаль не прыгадваюць у Беларусі. Шкада. А гэта быў таленавіты паэт, празаік, перакладчык, даследчык беларускага тэатра Яўген Міклашэўскі з вёскі Лыскі, што на Беласточчыне. З ім шчыра сябраваў Віктар Швед. А ў 1989 годзе спадар Віктар запрасіў Яўгена на Беласточчыну, бо дужа ён хацеў адведаць свае родныя Лыскі. І вось Яўген Міклашэўскі на малой бацькаўшчыне. Пакінутая старая хата Міклашэўскіх дажывала свой век. „Яўген заплакаў па страчанай Радзіме і нават не хапіла ў яго сілы, каб пераступіць парог роднай хаты і заглянуць у яе нутро. Стаяў ён сумны, прытуліўшыся плячыма да магутнай бярозы, якая запамяталася малым дрэўцам на панадворку звыш паўсотні гадоў таму назад. З бярозы павіслі ўніз галінкі з лісточкамі, быццам плакалі па тым, хто калісьці пасадзіў тут яе малую..." (с. 228), — так апісвае Віктар Швед сустрэчу Яўгена Міклашэўскага з роднай хатай і панадворкам у Лысках. Вельмі шчыра і чулліва чытаюцца такія ўспаміны аўтара „З Мора ў горад".

Цёпла і нават месцамі весела прыгадвае Віктар Швед і Аляксея Карпюка з Гародні, які таксама родам з Беласточчыны, з вёскі Страшава. Усміхаўся, калі чытаў адзін жыццёвы эпізод пра Аляксея Карпюка і Юрку Голуба: „Ноччу звоніць Аляксей Карпюк Юрку Голубу: „Юрка, ты спіш?" — „Так, сплю". — „А мне, бачыш, не спіцца. Званю з будкі ля твайго дома. Дык спі". Канец апаведу" (с. 233).

Кніга Віктара Шведа тым і цікавая, што яна напоўнена падобнымі жыццёвымі ўспамінамі, а да ўспамінаў далучаны і паэтычныя радкі аўтара, каб больш шчыра паказаць вобразы сваіх сяброў, многіх якіх даўно няма на гэтым свеце. Хораша піша літаратар і пра Эдварда Гойліка, Земавіта Фядэцкага, Юзэфа Рыбінскага, з радасцю ўспамінае розныя вандроўкі па Расіі, Беларусі, Англіі, Літве, Фінляндыі...

Кніга Віктара Шведа „З Мора ў горад" — кніга яго жыцця. А жыццё працягваецца — дык значыць будуць і новыя кнігі. Сам аўтар у канцы выдання кажа, што ён не будзе высылаць у „Ніву" сваіх твораў, а толькі іх заносіць. Віктар Швед па-ранейшаму ў дарозе! Дык няхай гэтая дарога вядзе яго ў беларускі тыднёвік „Ніва", і да сяброў, і да сваякоў, і да землякоў у Мора, і да роднай Беларусі яшчэ доўга-доўга!

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ISSN 0546-1960